# К КУЛЬТУРА

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 9 (271) 8 — 14 сакавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ





## VICTORIA ВІКТОРЫІ!

***Колькі ведаю Вікторыю Мазур, заўсёды здзіўляюся таму, як дакладна яна размяркоўвае сваё жыццё. Прырода надзяліла яе практычным розумам, які заўсёды ўласцівы дзелавым жанчынам. А яна і ёсць дзелавая жанчына — моцная, валявая, незалежная. А яшчэ — вельмі прыгожая, з цудоўным густам, які ніколі яе не падводзіць — ні на сцэне, ні ў жыцці. Сёлета да жаночага дня В.Мазур падышла, што называецца, "ва ўзбраенні": па-першае, атрымала, нарэшце, доўгачаканае званне "народнай артысткі Беларусі", а па-другое — зрабіла сабе і сваім паклоннікам заадно выдатны падарунак, наладзіўшы бенефіс, які мае адбыцца ў самае свята, 8-га сакавіка, у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. І зноў — прамое пападанне. Бо якое ж свята без аперэты? Тым больш, жаночае...***

**— Слова "аперэта" — жаночага роду, і прыхільніцы аперэты — гэта, у асноўным, жанчыны. Але ў Вас, вядомай актрысы, прымадонны гэтага жанру, напэўна ж, шмат паклоннікаў менавіта сярод мужчын. Якім Вы ўвогуле ўяўляеце сабе ідэальнага мужчыну?**

— Ну, па-першае, ён павінен быць сапраўдным мужчынам. Гэта галоўнае. Па-другое, павінен быць разумным і прыстойным чалавекам. Вось і ўсё.

**— Коратка і ясна. Ну, а ці можаце сказаць, што Вам шанцавала на сустрэчы з сапраўднымі мужчынамі?**

— Бадай што так, хаця свой ідэал я так і не сустрэла. Але і скардзіцца не магу, бо ў маім жыцці былі мужчыны, з якімі я адчувала сябе шчаслівай.

**— Вікторыя Мікалаеўна, наколькі я ведаю, Ваша захапленне аперэтай пачалося ў студэнцкія гады, калі Вы яшчэ вучыліся ў кансерваторыі?**

— Так. Я трапіла ў тэатр аперэты на чацвёртым курсе — прайшла па конкурсе. І адразу ж атрымала ролю Віялеты ў "Фіялцы Манмартра" Кальмана. Гэтая роля, напэўна, і вызначыла мой лёс. Я іграла самую-самую першую здачу, гэта было 10 верасня 1970 года, — вельмі добра памятаю той дзень. Я была такая шчаслівая! І тады проста закахалася на ўсё жыццё з усёй шчырасцю ў гэты жанр, дзякуючы гэтай ролі. Я асабліва яе неяк адчула, яна ўвайшла і ў сэрца, і ў душу. Я ўбачыла, які гэта дзівосны жанр — тонкі, чароўны.

**— Але з тае пары прайшло вось ужо амаль 27 гадоў. Калі Вам было больш камфортна, цікавей існаваць у тэатры — і ўвогуле, у жыцці — тады ці зараз?**

— Безумоўна, маладосць многае давала сама па сабе. Быў аптымізм, сіл было шмат. Таму што з узростам неяк паступова страчваецца і тое, і другое. Але цяпер прыйшло нейкае разуменне жыцця, яго веданне, нават смак, калі хочаце. Магу сказаць пэўна, што асабіста мне цікавей жыць менавіта зараз, нягледзячы на ўсе складанасці цяперашняга часу. Прынамсі, я стараюся, каб маё жыццё было напоўненым, багатым на падзеі.

**— Я ведаю, што Вы вельмі любіце чытаць...**

— Гэта, бадай, мой самы любімы занятак, маё выратаванне. Ведаеце, у дзяцінстве ў мяне была настольная кніга, да якой я і цяпер раз-пораз вяртаюся. Мне здаецца, што я яе ведаю напамяць. Гэта — "Кансуэла" Жорж Санд. Там галоўная гераіня — спявачка. І вось кніга пачынаецца з таго, што вядомы педагог Парпара дае ёй урок. І ён гаворыць, што галоўнае для вакаліста — гэта разуменне. І вось гэтая думка запала мне ў душу на ўсё жыццё. Але разуменне павінна быць не толькі ў музыцы. Яно павінна быць ва ўсім. Вось маркуйце самі: калі мы з Вамі адна адну не разумеем — не атрымаецца размова. Калі я не буду разумець, што я раблю, пра што спяваю — таксама нічога не атрымаецца. Усё грунтуецца на разуменні. Я так лічу.

**— Вікторыя Мікалаеўна, Вы не з тых людзей, якія прывыклі скардзіцца на лёс. Вы лічыце сябе чалавекам шчаслівым?**

— Мне цяжка адказаць адназначна. У маім жыцці было шмат прыемных, узнёслых хвілін, пра якія я ўспамінаю з вялікай цеплынёй. За іх я, безумоўна, удзячная лёсу.

**Са святам артыстку віншавала Вольга БРЫЛОН**
**Фота Вадзіма КУСТАВА**




## ВІНШУЕМ!!!

**Здымкам гэтай сімпатычнай дзяўчыны дасылаем самыя шчырыя віншаванні з цудоўным вясновым жаночым святам — 8 сакавіка сваім каляжанкам, аўтаркам і чытачкам! Зычым шчасця, поспеху, вечнай маладосці і прыгажосці! А здзейсніцца ўсім добрым пажаданням, вядома, дапаможа наша цікавае, багата ілюстраванае выданне, падпісацца на якое можна ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс "Культуры" —63875, кошт на месяц — 7 тысяч рублёў, на тры месяцы — 21 тысяча рублёў. Чытайце "Культуру", і яна стане Вашай надзейнай спадарожніцай, сяброўкай і дарадчыцай у імклівым віры жыцця!**

**Рыцары "К"ультурнага пяра**

# К КУЛЬТУРА

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

## Неспецыяльны рэпартаж

*ШТО ні кажыце, а па рамантыках 70-х гадоў час ад часу я сумую. Асабліва, калі зрэдку чую па радыё знаёмыя мелодыі кшталту: "... а вокруг голубая, голубая тайга". Так. Поўнач заўсёды была прэрагатывай рамантыкаў і няўдачлівых людзей з "вялікай" зямлі. Пазней прыйшоў час, калі людзі проста ехалі на некалькі гадоў, каб зарабіць грошы. Але малодшаму пакаленню ўласціва прыстасоўвацца да новых умоў жыцця. І праз гады тры-чатыры жыццё першапраходцаў і пакарыцеляў Сібіры і Поўначы набывала статус і атрыбуты пастаянных жыхароў. Гэта закон жыцця чалавека: усё часовае — пастаяннае.*

*Асабліва там, дзе ствараюцца ўмовы для нармальнага існавання чалавека. Сёння не сустрэнеш легендарных палатак, барадатых юнакоў у цяжкіх ботах. Нафтавікі і газавікі жывуць у цёплых кватэрах шматпавярховых дамоў. Раніцай п'юць італьянскую каву, разаграюць рухавікі сваіх аўто. Кожны год намагаюцца вывезці сям'ю не на "вялікую" зямлю, а ў Анталію ці на Кіпр адпачыць. А чаму ж і не? Калі білет да Мінска з Ніжнявартаўска ў адзін бок каштуе 200 даляраў ЗША... Даражэй за білет да Карлавых Вар.*

*Праблемы, зразумела, існуюць і ў былых камсамольцаў-першапраходцаў, цяперашніх жыхароў Сібіры і Поўначы. Напрыклад, еўрапейская праблема: беспрацоўе. Буравыя закрываюцца, бо рана ці позна нафту і газ выбіраюць да кропелькі. Такі закон прыроды: усё зямное мае свой пачатак і свой канец. Але ж і беспрацоўны атрымлівае столькі, колькі на Беларусі атрымліваюць штомесяц злодзеі ці ў хабар чыноўнік. Першыя шэсць месяцаў біржа працы выплачвае каля трох мільёнаў расійскіх рублёў, потым крыху меней, а мінімальная стыпендыя раўняецца сотні далярам ЗША. Чаму ж там не пець? Чаму ж не гудзець? Зразумела, што ўся бухгалтэрыя разліку і выплат складаецца з індывідуальных тарыфных катэгорый. Сюды ўваходзяць і знакамітыя "паляркі" за выслугу гадоў у раёнах Крайняй Поўначы, і пост, які займаў спецыяліст да ліквідацыі... Між іншым, цэны на прадукты ў крамах дзяржаўных і прыватных не адрозніваюцца ад нашых мінскіх і ўсебеларускіх. Адным словам, здаецца, сёння толькі лянотны не можа пракарміць сам сябе. А калі ты маеш адукацыю дый кваліфікацыю — увогуле кум каралю.*

*Пра негатывы не варта пісаць, бо журналіст павінен абапірацца на факты. Магу толькі здагадвацца і падзяліцца сваімі думкамі. Думка першая: чаму зарплата апаратчыка аб'яднання кшталту "Лукойл" у дзесяць разоў болей, чым у буравіка-вахтавіка? Прабачце, але ж у Арабскіх Эміратах, дзе адносна нядаўна знайшлі нафту, багаты толькі той, чыя скважына багацейшая на нафту. А тут трымаюць цэлае аб'яднанне — інстытут чыноўнікаў, якіх "прыкармілі" сотавымі тэлефонамі і таннай мэбляй, на плячах працоўных брыгад, якія сядзяць у тайзе на вахце месяцамі і здабываюць "чорнае" золата краіны. А тыя, хто, бадай, ніколі і не быў у гэтых мясцінах, трымаюць асноўны пакет акцый па здабычы нафты і газу і бестурботна сядзяць у Маскве. Цікава, што ўсе буравыя і газаправоды не прыватныя, а дзяржаўныя. Толькі акцыяніраваныя. Затое паводзіны ў акцыянераў-нафтавікоў — тэарэтыкаў як у эмірацкіх шэйхаў. Дураць нашага брата-рабацягу! Відаць, гэта таксама закон, толькі сучасны. Як кажуць, законаў у Расіі, што ў арабаў нафты.*

*Горад Лангепас у далёкіх 70-х гадах планаваўся тагачасным СССР адмыслова як горад беларусаў. Нафтавікі, газавікі, будаўнікі на выгадных умовах з'язджаліся з Беларусі ў Ханты-Мансійскі рэгіён. Прынамсі, і рос горад на базе матэрыяльных каштоўнасцей Беларусі... Зразумела, што ў наш час і Лангепас і Ханты-Мансійская акруга ўваходзяць у склад Расійскай Федэрацыі. І людзі...*

*Не сакрэт і тое, што былыя суайчыннікі-лангепасчане маюць па два пашпарты: расійскі і беларускі, бо калі Расія канстытуцыйна дазваляла мець падвоенае грамадзянства, дык чаму ж яго і не мець? Між іншым, калі жыхары "вавёрчынага выгану" (пераклад з ханцкага назвы Лангепас) трапляюць на Беларусь, то намагаюцца ўсімі праўдамі і няпраўдамі аформіць пашпарт грамадзяніна і РБ. Няхай будзе на ўсялякі выпадак. Так! І выпадак гэты ў хуткім часе здарыцца. Так сцвярджаюць спецыялісты. Праз 20 —30 гадоў, калі "карысныя выкапні" вычарпаюцца і дарагая працоўная сіла нікому не спатрэбіцца. Былым энтузіястам-першапраходцам зноў давядзецца выбіраць паміж Радзімай і снежным грашовым раем у іншым квадраце тайгі. І яшчэ невядома, як цяпер ужо сталыя і звыклыя да вялікіх грошай людзі прыжывуцца на бацькаўшчыне, адкуль з'ехалі юнакамі і дзяўчатамі. Дайце веры, але ж так было з "народанасельніцтвам", якое працавала на знакамітым возеры Саматлор. Цяпер гіганцкае возера сацыялізму — мёртвае. Людзі даўно пакінулі свае абжытыя куты на Поўначы Сібіры. А колькі было рамантызму і пафаснага патрыятызму ва ўрачыстых провадах на Саматлор!*

*Няхай было б столькі радасці і ў нашых суайчыннікаў, калі яны вернуцца дадому, на Беларусь...*

*Бачыце, я толькі паспела падзяліцца сваімі меркаваннямі. Здаецца, сумныя меркаванні. А галоўнага так і не сказала: жыхары Лангепаса любяць свой горад, таму ён не па-сібірску цёплы і ўтульны. Але аб жыхарах "вавёрачнага выгану" аповяд мой ніжэй...*

# ЗІМОВАЯ ВІШНЯ ЛАНГЕПАСА

***Сярод 40 тысяч жыхароў утульнага Лангепаса мне не прыйшлося доўга шукаць героя-суайчынніка для артыкула. У маленькім горадзе дастаткова выйсці вечарам ва універсам і паразмаўляць з жанчынамі. Дзякуй Богу, ментальнасць нацыі з гадамі не разбураецца. Хутчэй, наадварот, ва ўмовах поўначы лепш захоўваецца. Такім чынам, мой выбар трапіў на кандыдата педагагічных навук Галіну Кучынскую.***

**— Галіна Канстанцінаўна, чаму Вы прыехалі на Поўнач? Прабачце, але ж у 1987 годзе не існавалі камсамольскія пуцёўкі, рамантыкі СССР даўно сталі дзедамі і бабамі. Увогуле, мода прайшла. На змену прыйшла "перабудова", а Вы — з двума дзецьмі, кінулі Бабруйск, працу загадчыцы дзіцячай установы...**

— Так. Тады я выйшла з камсамольскага ўзросту, а цяпер ва ўзросце, як кажуць, "ягадка зноў".

**— Вы выдатна выглядаеце: калі ягада — дык зімовая вішня!**

— Дзякуй. У 1987 годзе я прыляцела ў Ніжнявартаўск да мужа, які працаваў на вахце, каб фінансава дапамагчы сям'і. Пайшла ў гарана і запытала: ці патрэбны Ніжнявартаўску спецыялісты майго рангу. Дарэчы, я — выкладчык матэматыкі, пазней стала загадчыцай дзіцячай установы ў Бабруйску. У гарана мне адказалі: безумоўна, патрэбны, і паглядзелі як на вар'ятку, якая трапіла па асабістым жаданні на Поўнач. Па натуры я — змагар, і калі што задумаю, то здзейсню, чаго б мне ні каштавала перамога. Зразумела, усе мае жаданні ў здаровых і разумных межах. Прыляцела дамоў, распавяла родным пра Поўнач і перспектыўную працу. Тыя не паверылі, чым і "завялі" мяне. Шчыра кажучы, я сама сумнявалася да апошняй хвіліны: ці варта ехаць з абжытага месца, з малымі дзецьмі на чужыну? З аднаго боку, Бабруйск трапіў у радыяцыйную зону, дзеці растуць у атруце, бацьку зрэдку бачаць... З другога — вялікі дом у цэнтры Бабруйска, свая гаспадарка, выдатныя стасункі з роднымі мужа і, зразумела, сваімі. Прыстойная праца. Магчыма, такі мой лёс...

**— Шкадуеце?**

— Цяпер цяжка адназначна адказаць. Тут нарадзіўся мой унук Зміцер, дачка Вольга скончыла Інстытут у Цюмені, сын вучыцца на юрыдычным факультэце. У рэшце рэшт я сталася спецыялістам: узначальваю прафесійны ліцэй-цэнтр неперарыўнай прафадукацыі, абараніла ў 1996 годзе кандыдацкую дысертацыю ў Маскве. Маю магчымасць практычна ажыццявіць тэарэтычныя напрацоўкі. Свае творчыя амбіцыі я задавальняю больш, чым хацелася б... Толькі буду няшчырая, калі скажу, што не сумую па Беларусі. Родныя мясціны Віцебшчыны прыходзяць да мяне ў снах. Чамусьці не канкрэтныя падзеі і людзі, а прырода і краявіды Віцебшчыны. Мяне гадавала бабка і менавіта карцінкі дзяцінства нараджаюцца ў снах. Дзіўна!

Кожны год падчас адпачынку я прыязджаю ў родны Бабруйск да маці і добра ведаю радасці і турботы суайчыннікаў. Толькі пакуль не пастаўлю дзяцей, як кажуць, на ногі, не маю маральнага права як маці з'язджаць ад унукаў і родных...

**— Маеце рацыю, бо на Беларусі менш за настаўнікаў і выкладчыкаў зарабляюць яшчэ ўрачы і журналісты. Толькі цяпер не кожны здольны знайсці сваё месца на чужыне... Дакладней, асмеліцца.**

— Не я першая скажу вам, што ў свеце бясплатны бывае толькі сыр у мышалоўцы. Вы ж бачыце — у маёй кватэры пануе творчы хаос, а не абывацельская ўтульнасць. Я не маю часу быць проста жанчынай, калі хочаце, звычайнай жонкай, якая гатуе баршчы. Я не ганаруся сваім статусам "дзелавой" жанчыны і не скарджуся Вам, бо такі стан мяне задавальняе. Хатнія прывыклі да ўмоў, прыстасаваліся з часам. Відаць, таму самыя асноўныя спрэчкі — наконт непрачытаных газет, дакладней: дзе яны ляжаць.

**— Дарэчы, Ваш муж Аляксандр прыгатаваў выдатную каву.**

— Вось кава бадай асноўны харч маёй сям'і. Хаця, па восені я выконваю ролю сапраўднай гаспадыні. Недалёка ад Лангепаса мы маем кавалак зямлі і лецішча. Вось сапраўднае задавальненне душы — гарод. Усю гародніну перапрацоўваем разам з сям'ёй і зімой падсілкоўваемся. Напрыклад, вось гэтыя свежыя памідоры — яны з лецішча. Мы навучыліся іх захоўваць нават да сакавіка.



**— Які ж беларус без зямлі і гаспадаркі!**

— Сапраўды! Ведаеце, калі я прыляцела на працу ў Ніжняварта-

# КАНЦЭРТМАЙСТАР, НАСТАЎНІЦА, АРТЫСТКА...

Калі гаворым пра аднаго чалавека, якое вызначэнне ў гэтай трыядзе галоўнае? У дачыненні да піяністкі Таццяны Таруцінай, думаю, можна сказаць, што Артыстка ўсё ж пераважае. Артыстка не ў святочным сэнсе гэтага слова, калі мастацтва становіцца канчатковай мэтай існавання і ўсё робіцца дзеля ўласнага поспеху на сцэне.



Таруціна — чалавек з душой Артыста, калі важна любіць не сябе ў мастацтве, а мастацтва ў сабе, каб дзеля гэтага самага Мастацтва быць бескампрамісным і сумленным, каб, не зважаючы на неразуменне і не самыя лепшыя часы ў культурным жыцці эпохі, верыць у Высокае і Светлае, спадзявацца на тое, што ўрэшце цябе падтрымаюць, зразумеюць, ацэняць. Артыст, у высокім сэнсе гэтага слова, не чакае кампліментаў і ўсеагульнага прызнання. Ён проста штодзень, штохвілінна сумленна робіць сваю справу.

Кожны піяніст рыхтуе сябе да сольнай кар'еры. Але лёс прапаноўвае сваю версію ажыццяўлення гэтага патаемнага жадання. І вось ты ўжо не той, хто саліруе, а той, хто дапамагае саліраваць (менавіта ў гэтым сэнс слова "канцэртмайстар"). Таруціна вучылася ў кансерваторыі як піяністка і марыла аб сольнай кар'еры. У яе былі выдатныя педагогі, пра якіх яна і сёння ўспамінае з цеплынёй і вялікай удзячнасцю. Гэта Эпштэйн і Шацкі. Пасля заканчэння аспірантуры яна тры гады працавала ў Баранавіцкім музычным вучылішчы. А потым, калі надышоў час вяртацца ў Мінск, ніякай іншай працы, акрамя канцэртмайстарскай, не было. І Таццяна Таруціна трапіла ў клас вядомага віяланчэліста Скабло ў якасці канцэртмайстра. Так пачалася яе канцэртмайстарская кар'ера. Потым былі конкурсы — Рэспубліканскі, Міжрэспубліканскі ў Таліне. А вось на замежныя музычныя "спаборніцтвы" Таруціна трапіла як канцэртмайстар ужо класа духавікоў у Беларускай акадэміі музыкі. Яна працуе ў класе тубы. Менавіта з тубістам удзельнічала ў Міжнародным конкурсе ў Германіі. Самы вялікі поспех мела Таццяна Таруціна на леташнім конкурсе ў горадзе Маркнекірхен, што знаходзіцца непадалёк ад Дрэздэна. Яна атрымала ганаровы Дыплом як адзін з лепшых канцэртмайстраў конкурсу.

Зараз Таруціна працуе на кафедры фартэпіяна ў Беларускай акадэміі музыкі. Ёй цікава займацца са студэнтамі, хаця, паводле яе словаў, аддачу яна атрымлівае часта не зусім тую, на якую разлічвае. Але рукі не апускаюцца, бо яна ведае, што абавязкова з'явіцца хтосьці, каму будзе цікава, у кім яна ўбачыць аднадумца. Аднадумцы Таруцінай — гэта не толькі яе вучні. Гэта і кампазітары, чые творы яна выконвае з нязменным энтузіязмам і любоўю. Таццяна цудоўны інтэрпрэтатар сучаснай музыкі, якая зусім не разлічана на лёгкі поспех у слухачоў. Ёй заўсёды цікавая новая музычная мова, яна любіць пераадольваць цяжкасці, ёй падабаецца знаходзіць у складанай музыцы змест, а потым "тлумачыць" яго слухачам. Пры знешняй стрыманасці, у душы піяністкі ўсё кіпіць, віруе, там жыве полымя, якое, вырваўшыся з душы, здольнае запаліць вочы і душы слухачоў. Гэта вельмі адчувалася на нядаўнім канцэрце, дзе яна выступала ў дуэце з таленавітым беларускім флейтыстам Якавам Гелерам. Найскладанейшыя сучасныя творы публіка ўспрымала на рэдкасць адзінадушна, з захапленнем, сцяўшы дыханне, сачыла яна за цудам, якое стваралі ў зале музыканты. Мне даўно не даводзілася чуць у канцэртнай зале такую напоўненую, "змястоўную" цішыню.

Сённяшні рэпертуар піяністкі Таццяны Таруцінай вельмі багаты. У яе "пальцах", як кажуць, ці не ўвесь вядомы віяланчэльны рэпертуар, шмат цікавых сучасных твораў для духавых інструментаў. Яе любімыя кампазітары Брамс, Бетховен, Пракоф'еў, Шастаковіч, Шнітке. А сярод беларускіх аўтараў, паводле словаў Таруцінай, найбольш блізкая яе творчай індывідуальнасці Галіна Гарэлава. Яе творы піяністка выконвае з вялікім пачуццём і з нецярплівасцю заўсёды чакае новых.

Ад сваіх педагогаў артыстка пераняла сумленнае стаўленне да прафесіі. Яна ніколі не дазволіць сабе прыйсці ў клас непадрыхтаванай, яна не пераносіць халтуры на сцэне. Ёй здаецца, што варта толькі адзін раз дазволіць сабе несумленна паставіцца да прафесіі і ты — "пакаціўся". З гэтым перакананнем існаваць не проста, але яна не можа інакш. Гэтаму яе вучылі настаўнікі, гэтаму яна вучыць і сваіх студэнтаў, гэтага прытрымліваецца і ў сваёй артыстычнай дзейнасці. Менавіта гэта дапамагае ёй заставацца ў сваёй прафесіі заўсёды на вышыні.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ГАСПАДЫНЯ ТУМАННАГА АЛЬБІЁНА



Споўнілася 45 гадоў з таго часу, як брытанскі прастол заняла Елізавета II — глава Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, дзяржаўнай англіканскай царквы, уладальніца многіх іншых ганаровых тытулаў. Брытанцы любяць сваю каралеву. Па аднадушным меркаванні землякоў, на працягу 45 гадоў яна не дапусціла ніводнай памылкі, годна спраўлялася са сваімі абавязкамі, сімвалізуючы адзінства нацыі.

Брытанскія манархі стаяць убаку ад палітыкі. Яны ўладараць, а не кіруюць, уважліва назіраючы за тым, што робяць або збіраюцца рабіць "іх прэм'ер-міністры".

**Наш кар.**

НОВЫЯ АМАЗОНКІ

# "...НЕ МАЕ ПРАВА ВЫГЛЯДАЦЬ ДРЭННА"

Вялікае інтэрв'ю нашага карэспандэнта Навума Цыпіса з дырэктарам Беларускага Цэнтра моды Любоўю Манулік, змешчанае ў "Культуры", выклікала цікавасць да гэтай неардынарнай, цікавай асобы ў многіх нашых чытачоў, а таксама супрацоўнікаў рэдакцыі. Высветлілася, што Любоў Васілеўна разам са сваёй сяброўкай Тамарай Гумінскай два гады таму адкрылі ў Мінску філіял Міжнароднага клуба "Лэдзі-Лідэр", створанага ў 1987 годзе ў Парыжы мадам Пак Сіманэ, прэзідэнтам гатэляў Royal Monceau. Прызнацца, нам вельмі захацелася пазнаёміцца з жанчынамі, якія вось ужо паўтара гады рэгулярна сустракаюцца, дапамагаюць адна адной, праводзяць цікавыя вечары і, з'яўляючыся кожная лідэрам у сваёй прафесіі, годна прадстаўляюць беларускую жанчыну за мяжой. Не так даўно ў Доме дружбы сустрэліся члены клуба "Лэдзі-Лідэр", супрацоўнікі нашай рэдакцыі і дзеячы беларускай культуры і мастацтва, сярод якіх былі народны пісьменнік Янка Брыль, пісьменнікі Валянцін Тарас, Навум Цыпіс, народныя артысты БССР і СССР — Марыя Захарэвіч, Аляксандра Клімава, Расціслаў Янкоўскі і іншыя.

Той вечар запомніўся не толькі іхнімі выступленнямі. Было надзвычай прыемна бачыць выдатна ўпрыгожаныя сталы, адчуваць добрую арганізацыю вечара (усе клопаты ўзялі на сябе "Лэдзі-Лідэр"), а таксама пазнаёміцца з членамі гэтага элітарнага ў лепшым сэнсе клуба, якія вырашылі супрацьпаставіць апатыі і песімізму энергію і ўменне арганізоўваць сваю справу. Мабыць, найлепшым дэвізам для гэтага можна было б паставіць словы дырэктара фірмы "Сітрэм", віцэ-прэзідэнта Тамары Гумінскай: "Нашто мыць каструлькі, калі можна зарабіць на пасудамыечную машыну?!" Асабліва падабалася тое, што дзелавыя жанчыны — і Ала Пагоніна (мозг і душа клуба, як сказала Л.Манулік), і Ірына Рузава, і Ірына Чэкалава, і Наталля Вярбоўская — выглядалі так элегантна, трымаліся з такой годнасцю, што міжволі ўспаміналіся шматлікія выказванні замежных гасцей-мужчын аб тым, што Беларусь багатая найперш сваімі жанчынамі... Але нездарма, адказваючы на пытанні часопіса "Архідэя", Валянціна Хаецкая, галоўны спецыяліст "Дыпсервіса", заўважыла, што "нашы жанчыны абдзеленыя многімі дабротамі жыцця", і пажадала ім шчасця, таму што, "калі адчуваеш сябе шчаслівай, можна многае пераадолець." Сапраўды, каб у сённяшні час адчуваць сябе шчаслівай, трэба мець цікавую працу, добрую сям'ю, умець пераадолець цяжкасці побыту і многае іншае, што вельмі часта залежыць ад самой жанчыны.

Сустрэча з "Лэдзі-Лідэр" запомнілася яшчэ і тым, што пры ўсёй непадобнасці, яркай індывідуальнасці кожнай з іх, агульная атмасфера, якая панавала, была асаблівай: дружалюбнай, мяккай, я б сказала, духоўнай. І тады яшчэ падумалася, што, мабыць, многае залежыць ад стваральніцы клуба, яе прэзідэнта Любові Манулік. Якая ж яна, Любоў Васілеўна, што любіць, чым захапляецца? Так нарадзілася гэтае інтэрв'ю.

**— Любоў Васілеўна, трапіць да Вас няпроста: кожная хвіліна распісаная, рытм працы ў Вас надзвычай напружаны. Як Вас хапае і на тое, каб дабівацца поспехаў у дзейнасці (Цэнтр Моды відавочна нарошчвае аб'ёмы і якасць прадукцыі), і на тое, каб выглядаць прывабнай, дагледжанай, элегантнай?**

— Можа быць, гэта таму, што я вельмі люблю сваю працу, люблю самую атмасферу Цэнтра Моды — крыху таямнічую, творчую і заўсёды непаўторную... Яшчэ дзяўчынкай-школьніцай я захапілася мадэляваннем адзення — вывучала тканіну, яе магчымасці, дабралася нават да Урадавай бібліятэкі, дзе ў той час выпісваліся многія недаступныя для жанчын часопісы, накшталт "Сілуэта", і, выбіраючы мадэлі, заўсёды старалася ўносіць у іх нешта сваё. Але аднойчы на школьным бале я ўбачыла ў адной з нашых дзяўчынак сукенку, якая выдзялялася сваёй індывідуальнасцю і вельмі пасавала ёй. На пытанне, адкуль гэтая сукенка, яна адказала, што пашыла яе ў Доме мадэляў. Назаўтра ж я паехала паглядзець, дзе гэта шыюць такое прыгожае адзенне. Я прыехала сюды, у Дом моды.

**— Ці думалі Вы тады, што некалі станеце тут дырэктарам?**

— Вядома, не. Тады мне проста вельмі захацелася тут працаваць. Хаця калі-небудзь, у будучым. Я часта пасля прыходзіла сюды. І, ад'язджаючы ў Маскву паступаць у Тэкстыльны інстытут, загадала сабе: "Калі паступлю, калі буду вучыцца там — буду працаваць тут, у гэтым храме Моды". Так і здарылася, хаця для маіх бацькоў было не проста адпусціць мяне ў сталіцу. Але, паколькі мой тата быў філосафам-прафесіяналам, які закончыў філасофскі факультэт, ён угаварыў і маму.

**— Ці была спакуслівая думка — пасяліцца ў сталіцы?**

— Я ўвогуле і не думала заставацца ў Маскве. Карэнная мінчанка, я люблю наш Мінск. Многае тут з'явілася літаральна на маіх вачах, і калі я, як расказвала, упершыню прыехала да Дома моды, ён быў, дарэчы, таксама толькі што пабудаваны.

**— Пры першай сустрэчы Ваш твар здаўся мне вельмі знаёмым. Ці не "мадэллю" Вы тут працавалі? Мабыць, я сустракала Вашы фотакарткі ў беларускіх жаночых часопісах.**

— У маладыя гады, пасля заканчэння інстытута, мне сапраўды даводзілася дэманстраваць мадэлі нашых прадпрыемстваў і фабрык. Тады пры росце 164 сантыметры я важыла 54 кілаграмы, але, папраўдзе, ніколі не завышала ўласную планку, разумела, што мне далёка да прафесіяналак, хаця тады, дарэчы, не было заведзена, што мадэлі павінны быць вельмі высокімі. Фотакарткі мае, на якіх я рэкламавала адзенне фабрыкі імя Крупскай, друкаваліся ў беларускіх выданнях, і хаця я вельмі паважаю працу мадэльерак, усё ж лічу, што найбольшае задавальненне маёй душы дастаўляў працэс стварэння мадэлі, радасць ад таго, што яна пойдзе ў вытворчасць і, магчыма, дапаможа нейкай жанчыне адчуць сябе шчаслівай.

**— А што, апроч працы, дае шчасце Вам?**

— Мне пашанцавала двойчы: я нарадзілася ў вельмі добрай сям'і, дзе панавалі дабрыня, любоў і адданасць. Мая ўласная сям'я такая ж. Узаемаадносіны з мужам Сяргеем (ён фізік, кандыдат навук, мае шмат вынаходніцтваў, навуковых артыкулаў), а таксама дачкой Ганнай (яна студэнтка медінстытута) шчырыя, з любоўю і ўзаемадапамогай. Лічу, што вельмі важным для жанчыны з'яўляецца духоўная сувязь з народжанай ёю істотай. Дзіця — гэта святое, яго трэба паважаць, а не проста любіць.

**— Я ведаю, што клуб "Лэдзі-Лідэр" узяў шэфства над домам састарэлых у вёсцы Куранец пад Вілейкай. Вы даволі часта ездзіце туды з прадуктамі, адзеннем, многімі іншымі рэчамі, так неабходнымі для адзінокіх, а часта і па-варварску пакінутых старых людзей. Што гэта — патрэба душы ці, так бы мовіць, своеасаблівая ахвяра багам, каб яны не гневаліся на занадта шчаслівых, якімі Вы выглядаеце ў вачах іншых? Нездарма ж ёсць легенда пра пярсцёнак цара Палікрата, якому так пашанцавала, што, калі кінуты багам у ахвяру пярсцёнак вярнуўся да яго ў чэраве злоўленай рыбакамі рыбы, мудрацы з жахам збеглі ад яго, кажучы: "Калі такая літасць багоў да яго, то якім жа будзе пакаранне?"**

— Гэтыя паездкі для нас — як ачышчэнне душы. Нам хочацца дапамагчы тым, хто мае ў гэтым патрэбу, зменшыць, наколькі хапае сіл, чалавечыя пакуты. Кожная сустрэча (а нас там чакаюць, радуюцца), надае моц, упэўненасць, што можна многае пераадолець і супрацьстаяць злу, а разам з тым адкрывае, колькі ў маіх саклубніц дабрыні. Так, яны добрыя. Не добранькія, якія могуць падаць бабульцы грошы і тут жа забыцца на яе, а па-сапраўднаму спагадлівыя. Увогуле праблема дапамогі хворым і слабым павінна стаць не толькі дзяржаўнай праблемай, але і справай кожнага, хто мае магчымасць дапамагчы. Сваімі дзеяннямі мы хацелі б прыцягнуць увагу грамадскасці да мецэнацтва.

**— Я ведаю, што найбольш Вы любіце музыку і падарожжы. А літаратуру?**

— І літаратуру, вядома. Апошнім часам стараюся чытаць духоўную, а таксама дзелавую, патрэбную для працы. Раней шмат чытала гістарычнай. Але даводзіцца ад нечага і адмаўляцца. Затое прыбавілася сустрэч з цікавымі людзьмі. У нас у клубе не толькі прадпрымальніцы, але і ўрачы, адвакаты, журналісты, артысты, мастачкі — словам, тыя, хто дабіўся поспеху ў сваёй прафесіі. І яны дапамагаюць адкрываць свет, заўсёды чароўныя ў сваёй непаўторнасці, і лепшае ў сабе. І мне хочацца сказаць нашым жанчынам: смялей ламайце стэрэатыпы; нягледзячы ні на што, жанчына не мае права выглядаць дрэнна!

**Вольга ФЯДЗЮШЬ.**



*На здымку: Члены клуба "Лэдзі-Лідэр" Ірына Рузава, Ніна Лямешка, Ірына Чэкалава ў вёсцы Куранец у час візіту да сваіх падапечных.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# БАГІНЯ РАЗЦА



***Святлана ГАРБУНОВА, скульптар:***

"Цяжка сказаць, як узнікаюць мастацкія задумы. Усё гэта адбываецца неяк стыхійна, спантанна, апасродкавана. Іншы раз адно задумваеш, а ў працэсе працы з'яўляецца нешта іншае. А іншы раз — "першапачатак", праўда, зрэдку, супадае з канчатковым вынікам. Я люблю жывое, разняволенае мастацтва, няпросталінейнае, разважлівае, якое судакранаецца з маім унутраным светам. А свет мой — гэта гісторыя маёй Айчыны і метамарфозы сучаснага чалавека з ягонымі пачуццямі, думкамі, перажываннямі. І ў залежнасці ад тэмы я шукаю адпаведныя вобразна-пластычныя і кампазіцыйныя сродкі".

# ГАРМОНІЯ І АЛГЕБРА НАТАЛЛІ БОЙКА

***Яна спрабуе сумясціць несумяшчальныя на першы погляд рэчы: "манументальнасць" культурызму і лёгкасць танца, энтузіязм дылетанта і прафесійнасць майстра, разлік прадпрымальніка і натхненне творцы. Як ні дзіўна, гэта ёй удаецца.***

Наталля Бойка нарадзілася і сталела амаль што ў адзін час са сваім родным горадам. У Наваполацку, які яшчэ не пераступіў праз саракагадовую адзнаку, нават галоўная вуліца называецца "Маладзёжная". У сонечны дзень тратуары запаўняюць юныя матулькі з калясачкамі. Увечары там і тут "тусуецца" моладзь, наводзячы жах на спазнелых прахожых. Да гарадскога Маладзёжнага Цэнтра я падыходзіў праз строй зацікаўленых, дзёрзкіх і вызываючых позіркаў юнакоў і дзяўчат. Яны какетнічалі адно з адным, палілі, выдувалі пухіры са жвачкі і танцавалі ўсюды — у дыскатэцы, у калідорах і пераходах. А ў цеснай люстранай зале са станком уздоўж сцяны гучаў бойкі голас Наталлі Бойка: "А зараз — "Фантазію!" Даўгавязыя дзяўчынкі, яе падапечныя, зашапталіся паміж сабой: "Табурэтачкі", — пераіначыўшы назву своеасаблівага эстраднага танца з крэсламі. Заканчвалася чарговая рэпетыцыя харэаграфічнай студыі "Балеро".

*— Студыя "Балеро" — далёка не першае маё пачынанне. Колькі памятаю сябе, мяне заўсёды вабіла сцэна, танец і прыгажосць.*

Культ прыгажосці, маладосці — наогул натуральны фон жыцця юнага горада. І Наваполацк вабіў не толькі будаўнікоў і нафтавікоў, людзей самых паважаных тут прафесій. Сюды прыязджалі энтузіясты самага шырокага профілю. Так тут з'явіўся хлопец з Пецярбурга, з палунінскіх "Лицедеев", заснаваў студыю пантамімы. У ёй Наталля ўпершыню атрымала магчымасць выйсці на сцэну. Але хутка строгія рамкі пантамімы сталі цеснымі, ёй хацелася танцаваць, выдумляць і дзяліцца прыдуманым.

*— Сваю першую студыю я сабрала дванаццаць гадоў таму. А першай пастаноўкай была кампазіцыя на музыку "Балеро" Равеля. Зараз я разумею, якое гэта было нахабства. А ў той час дваццаціхвілінная пастаноўка ў стылі Айседоры Дункан мела пэўны поспех і падштурхнула да новых пошукаў.*

Яе энтузіязм і працаздольнасць аказаліся патрэбнымі ў дзіцячых установах, у Палацах культуры. Іх у Наваполацку два, зразумела — Палац нафтавікоў і Палац будаўнікоў. Пры гэтым яна паспела скончыць педвучылішча, потым педінстытут і сама займалася ў папулярным народным калектыве "Пеўчыя дудары".

*— Гэта быў фальклорны калектыў досыць высокага класа. Мы аб'ездзілі ўсю Віцебскую вобласць, усю Беларусь, атрымлівалі запрашэнні за мяжу.*

І раптам Наталля Бойка — сярэбраны прызёр Другога чэмпіянату Беларусі па культурызме!

*— Да культурызму вабіла перш за ўсё магчымасць дасягнуць фізічнай дасканаласці. Я і не думала кідаць танец, але сталую перагружанасць ног дапоўніла заняткамі з абцяжарваннямі.*

Чалавек, схільны да захаплення і ўпарты адначасова, Наталля і на новай ніве разгарнулася ўсур'ёз. Нават падчас гастроляў "Пеўчых дудароў" у Германіі не пакідала трэніровак. У тамтэйшых залах з захапленнем сустракалі "беларускую фройляйн Фітнэс".

*— У Германіі я шмат чаго ўбачыла і пазнала, напэўна, болей, чым ведаюць нашы спартсмены тут. Убачыла еўрапейскі ўзровень культурызму. І таму, калі пасля майго поспеху "на рэспубліцы" мяне запрасілі "на Еўропу", я адмовілася. Поспех у культурызме залежыць у многім ад спецыяльнага харчавання, дыеты. У нашых умовах гэта немагчыма. А ўжываць анаболікі, як гэта робяць многія тут, ці ехаць, каб проста ехаць, а не перамагаць, я не жадала.*

Тым не менш, любоў да культурызму засталася. І, заснаваўшы сваё чарговае "прадпрыемства" з гучнай назвай "Універсітэт Прыгажосці", Наталля ўключыла ў яго праграму поруч з класамі макіяжу, аэробікай, танцам таксама заняткі з абцяжарваннямі.

*— "Універсітэт Прыгажосці" праіснаваў адзін год, гэта было як бы камерцыйнае прадпрыемства, але прыбыткаў не дало. Затое з яго выпускніцамі я падрыхтавала сваю першую эстрадную праграму. У склад яе ўвайшоў нават нумар стрыптызу. Праграму заказаў расійскі прадпрымальнік, мы яе паказвалі ў Расіі.*

**— Якім чынам Вы здолелі паставіць стрыптыз? — я не сцярпеў і перарваў расказ пытаннем. — У яго свае законы, ніхто гэтага своеасаблівага мастацтва ў нас не ведае.**

*— На чыстай інтуіцыі. Але ўжо потым, паглядзеўшы пару добрых запісаў, пераканалася, што ўсё зрабіла правільна. Зразумела, танцавала не я. Поспех гэтай праграмы ашаламіў маіх дзяўчат, яны перасталі працаваць, уявілі сябе "зоркамі", з'ехалі кудысьці за мяжу па так званым "кантракце". Здрада мяне раззлавала, таму я хутка апамяталася. Ствараючы сваю новую студыю, цяперашнюю, я зрабіла ўсе магчымыя высновы. Я зразумела, што не павінна кожны раз пачынаць ад нуля. Я сама ўжо прафесіянал і хачу працаваць прафесійна. І мне здаецца, я ведаю, што рабіць.*

**— У Вас ёсць тое, што можна было б назваць "ідэалам"?**

*— Ёсць некалькі. Адзін з іх — Барыс Майсееў. Не цяперашні, калі ён абясколерыўся, завіўся і "заспяваў". А перыяду "Экспрэсіі". Тое, што ён тады рабіў — гэта ж быў танец пачуццяў, танец душы. Такі танец толькі і мае сэнс танцаваць, яго цікава глядзець. Цікава, каб цела чула музыку, жыло ў ёй. Я гэтага хачу дасягнуць у сваіх пастаноўках. Адной з крыніцаў натхнення лічу народную музыку, яе апрацоўкі. Мне здаецца, акуратная тонкая стылізацыя народнага танца — гэта тое, што трэба.*

**— Вам, здаецца, ніхто не дапамагае грашыма, студыя, як я чуў, існуе амаль што на Вашыя сродкі. Ці надоўга Вас хопіць?**

*— Мне многія кажуць: "Кінь гэта, гэта табе нічога не дае, ні матэрыяльна, ніяк. Гэта ламае табе жыццё." А для мяне гэта і ёсць жыццё. Нешта вядзе мяне ўвесь час. Гэта можна было б назваць "прызначэннем", калі б не гучала так пышна.*

Калі мы выйшлі на двор, была ўжо густая ноч. Скончыліся дыскатэкі. Няўрымслівыя юнакі цесна стаялі ля ўвахода ў Маладзёжны Цэнтр, не ведаючы, ці пашумець яшчэ трохі, ці ўжо ісці спаць. Заўважыўшы Наталлю, ветліва расступіліся. Чалавека з прызначэннем у Наваполацку паважаюць.

**Ігар КЛОКАЎ, наш спецкар.**
*Мінск — Наваполацк — Мінск*

# Аляксандр ПАЗНЯК: "ЗВЯРТАЙЦЕСЯ ДА НАС І МЫ ДАПАМОЖАМ..."

***Моладзь з'яўляецца адным з галоўных індыкатараў жыцця грамадства. Яна, як губка, убірае ў сябе ўсё самае лепшае і самае горшае, што ёсць у старэйшых, нашмат павялічваючы гэта на выхадзе. Моладзь — адзін з першасных рухаючых фактараў грамадства. Вельмі важна, каб гэтая вялізная сіла і энергія накіравалася ў патрэбнае рэчышча.***
***На гэтую тэму наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па справах моладзі Аляксандрам ПАЗНЯКОМ.***



**— Аляксандр Рыгоравіч, Вы літаральна некалькі хвілін таму прымалі ўдзел у сустрэчы прэзідэнта з прадстаўнікамі дзяржаўных органаў па рабоце з моладдзю і лідэрамі найбольш буйных маладзёжных арганізацый. Якія пытанні, праблемы разглядаліся на сустрэчы?**

— Асноўная размова вялася наконт стварэння моцнай маладзёжна-патрыятычнай арганізацыі, шукалі адпаведныя шляхі і формы, каб не пашкодзіць інтарэсам ужо дзеючых маладзёжных арганізацый, якіх у краіне каля пяці дзесяткаў. Усе яны маюць права на існаванне і яны будуць існаваць. Аднак глыбокія фактычныя напрацоўкі, указы прэзідэнта, пастановы Савета міністраў і нашыя практычныя дзеянні гавораць пра тое, што работа ў галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі як базіс павінна мець ідэалагічную надбудову. Цяпер усе тыя карысныя праграмы, якія робяцца, павінны завалодаць розумам і сэрцамі маладых людзей.

**— Атрымліваецца, што тыя арганізацыі, якія існуюць, не спраўляюцца са сваімі задачамі?**

— Так, і яны самі гэта прызнаюць, кожная арганізацыя займаецца сваёй спецыфічнай работай. А ў дадзеным выпадку патрэбна, каб быў сплаў маладосці з вопытам і традыцыямі некалькіх арганізацый. Тады магчыма мець вялікую маладзёжную арганізацыю, якая зможа рэальна праводзіць дзяржаўную маладзёжную палітыку з улікам гістарычных і культурных традыцый.

**— Калі Вы ўжо закранулі культуру, то адкажыце, які на сённяшні дзень культурны ўзровень сучаснай моладзі?**

— Нельга для ўсёй моладзі вызначыць сярэдні ўзровень культуры. Тым больш, што разбежка ва ўзросце вялікая — ад 16 да 30. На мой погляд, старэйшае пакаленне больш знаёмае з каштоўнасцямі класічнай культуры. Сярод найбольш маладых назіраецца схільнасць да простых і нават спрошчаных форм культуры, культуры адпачынку, культуры зносін. Зараз назіраецца засілле прымітыўнай музыкі, літаратуры, якая не патрабуе працэсу мыслення, — гэта ўздзейнічае на ўзровень культуры.

**— Што можна і патрэбна зрабіць, каб выправіць сітуацыю?**

— Забаронамі гэта зрабіць нельга, адназначна. Любы вакуум павінен быць запоўнены. Дзяржаўныя органы і маладзёжныя арганізацыі павінны працаваць, каб данесці да маладых людзей усе найлепшыя культурныя здабыткі.

**— Як запаўняецца гэты вакуум?**

— Што тычыцца нашага Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі, то мы падтрымліваем культурныя акцыі, якія могуць духоўна ўзвысіць чалавека, выхаваць яго, падвысіць яго культуру. Канцэртная акцыя "Мы супраць наркаманіі" праводзілася з нашай фінансавай і арганізацыйнай падтрымкай. Дапамагаем таксама тым артыстам, якія карысна ўплываюць на моладзь. На святкаванні 25-годдзя творчай дзейнасці Паплаўскай і Ціхановіча мы выступалі практычна асноўнымі арганізатарамі. Іх песні нясуць нешта светлае і добрае. А яшчэ раней часткова падтрымлівалі і "Рок-каранацыю-96", дзе выступалі нашы лепшыя гурты. Мы лічым, што рок як мастацтва таксама мае права на існаванне.

**— Якія крытэрыі выкарыстоўваюцца для вызначэння таго, што нейкая дзейнасць мае выхаваўчае значэнне?**

— Гэта залежыць ад нашай агульнай культуры — супрацоўнікаў Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі і ад мяне як ад кіраўніка. Тут, зразумела, дзейнічае суб'ектыўны падыход.

**— Ваш камітэт падрыхтаваў праект указа аб патрыятычным выхаванні моладзі?**

— Так, засталося толькі ўзгадніць яго з некалькімі міністэрствамі. Плануецца стварэнне сістэмы патрыятычнага выхавання. Я не сказаў ваенна-патрыятычнага, таму што чалавек павінен не толькі са зброяй у руках абараняць Радзміу, але і любіць яе, абараняць яе словам і справай, і сваёй паўсядзённай працай. Для гэтага патрэбны патрыятычныя цэнтры, дзе б чалавек далучаўся да патрыятычных і культурных традыцый нашага народа.

**— Як у Вашай працы вам дапамагаюць сродкі масавай інфармацыі?**

— У нас ідзе прадуктыўнае супрацоўніцтва. Мы сталі заснавальнікамі газеты "Переходный возраст". Саветам міністраў нам перададзена газета "Знамя юности", і мы разам з калектывам рэдакцыі збіраемся папрацаваць, каб газета засталася флагманам моладзі сярод СМІ. На тэлебачанні ствараем інфармацыйна-забаўляльную праграму. Я думаю, што ў красавіку яна ўжо выйдзе. На радыё мы стварылі праграму "Молодёжь Беларуси", якая выходзіць раз на тыдзень.

**— У наш час вельмі актуальным стала пытанне злачыннасці сярод моладзі, як Вы рэагуеце на гэтую праблему?**

— Уся наша праца — гэта барацьба са злачыннасцю сярод моладзі. Нельга да кожнага маладога чалавека прыставіць міліцыянера. Калі ў чалавека ёсць жыллё, праца — навошта яму ўчыняць злачынства. Асноўную работу мы праводзім па месцы жыхарства, супрацоўнічаем з мясцовымі арганізацыямі. Ёсць выдатны прыклад: у Баранавічах за кошт гарвыканкама ўтрымліваецца 30 супрацоўнікаў па працы з моладдзю, выдзелены памяшканні. Летам 1995 года там не было здзейснена ніводнага правапарушэння з удзелам моладзі.

**— Як вырашаецца жыллёвае пытанне — найбольш важнае і прыярытэтнае для моладзі?**

— Указам прэзідэнта выдзелена крэдытная лінія на 800 мільярдаў рублёў. Крэдыт прадастаўляецца маладым сем'ям тэрмінам на 40 гадоў пад 5 працэнтаў гадавых, 90 працэнтаў спажывецкіх якасцей у кватэры аплочваецца. Каля 5 тысяч маладых сем'яў змогуць пабудаваць сабе жыллё. Раней такой магчымасці не было.

**— Вы сказалі, што займаецеся і працаўладкаваннем?**

— Займаемся другаснай занятасцю моладзі ў вольны ад навучання час, працуем над стварэннем палажэння аб студэнцкім атрадзе. Асноўнай занятасцю займаемся слаба — не хапае сіл.

**— Творчая моладзь, што робіцца ў гэтым накірунку?**

— Справа ў тым, што ў Цэнтральным апараце ў нас толькі 22 супрацоўнікі. Аддзела культуры ў нас няма, адзін чалавек разам з іншымі абавязкамі вядзе і пытанні культуры і працы з творчай моладдзю. Некалькі месяцаў таму мы дапамаглі правесці прэзентацыю карцін маладой мастачкі Алены Кароткай. Звяртаюцца да нас мала, але чым можам — дапамагаем.

**— Проста мала звяртаюцца?**

— Амаль зусім не звяртаюцца.

**— Атрымліваецца — ініцыятыва за маладымі.**

— Так, таму я заклікаю — звяртайцеся да нас і мы па магчымасці дапаможам.

**— А якія ў вас ёсць магчымасці?**

— На маладзёжную палітыку на 1997 год з бюджэту выдзелена 20 мільярдаў рублёў. Параўнайце два гады таму — толькі 500 мільёнаў, у мінулым годзе — 7 мільярдаў.

**— Аляксандр Рыгоравіч, наша размова адбываецца напярэдадні 8 сакавіка, што б Вы хацелі пажадаць дзяўчатам і маладым жанчынам з нагоды гэтага свята?**

— Я віншую не толькі маладых дзяўчат па пашпарце, я віншую ўсіх жанчын нашай краіны, таму што кожная жанчына ў душы адчувае сябе маладой — і гэта правільна. Я хацеў бы пажадаць ім вечнай маладосці, прыгажосці — кожная жанчына па-свойму прыгожая і непаўторная, няхай у кожнай будзе свой шарм, няхай кожная зведае жаночае, мацярынскае шчасце.

**Гутарыў Міхась БАШУРА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*Гонг і гальштук для каханай!*

# НЕ САСТУПІМ РЫМСКІМ МАТРОНАМ!

БЯССПРЭЧНА адно: без культуры няма нацыі, а паколькі святочная культура — частка духоўнай культуры кожнага народа, наогул чалавецтва, прыйдзецца прызнаць, што яна патрэбная, дакладней, патрэбныя святы, з якіх яна складаецца.

Давайце яшчэ раз уважліва прыгледзімся да сучаснай святочнай мазаікі. На жаль, мы амаль не знойдзем святаў моладзі, асабліва студэнцкай моладзі. Нехта запярэчыць — а дзень "Святога Валянціна", а "Таццянін дзень"? Так, але, па-першае, "Святы Валянцін" прыйшоў да нас амаль з эпохі вагантаў, па-другое, занадта мала для моладзі, і, па-трэцяе, дзе ж сучасныя яскравыя і не падобныя ні на што студэнцкія святы? Хаця б на ўзроўні вышэйшых навучальных устаноў.

З гэтай нагоды хочацца падзяліцца некаторымі задумамі і распрацоўкамі студэнцкіх тэатралізаваных відовішчаў і святочных дзей, якія зроблены на кафедры святаў Беларускага універсітэта культуры. У кафедры вялікі і плённы творчы шлях, да таго ж тут працуе большасць практыкуючых у гэтай галіне рэжысёраў, якія стаялі ля вытокаў вялікіх разнажанравых святаў не толькі ў Мінску, але і па краіне. Бадай усе юбілейныя святкаванні гарадоў нашай дзяржавы распрацоўваліся і ўвасабляліся спецыялістамі кафедры, несумненным здабыткам нашых рэжысёраў стала вяртанне да жыцця і ўвядзенне ў традыцыю святкавання "Мінскіх каляд", "Масленіцы", "Гукання вясны", "Купалля" і іншых народных святочных дзей.

Надзвычай яскравым, выразным, глыбокім па сэнсе, сапраўды студэнцкім святам стаў "Дзень ведаў". Універсітэт і кафедра далі жыццё цудоўнай тэатралізаванай "Інаугурацыі першакурснікаў", якую ўжо падхапілі ВНУ краіны.

Зараз у распрацоўцы знаходзяцца яшчэ тры студэнцкія святы, якія павінны стаць традыцыйнымі. Прычым хочацца падкрэсліць, што яны будуць святамі студэнтаў менавіта нашага універсітэта з характэрнымі і пазнавальнымі рысамі адзінай у дзяржаве вышэйшай навучальнай установы, дзе рыхтуюць спецыялістаў для сферы культуры.

З наступнага навучальнага года мы абавязкова пачнем святкаваць "Дзень Францыска", свята нашых студэнтаў. Гэты ж год стане стартавай пляцоўкай для "Дня выпускніка" (назва пакуль умоўная) і свята жанчын універсітэта "Вялікія Букаўскія Матраналіі" (БУК — Беларускі універсітэт культуры).

Трэба заўважыць, што творчая ідэя гэтай нетрадыцыйнай святочнай распрацоўкі прыйшла ад саміх студэнтаў, ад сённяшніх дыпломнікаў, што сведчыць пра запатрабаванні студэнцкай аўдыторыяй прынцыпова новых падыходаў.

Плануецца, што "Матраналіі" будуць адбывацца кожны апошні тыдзень красавіка, не супадаючы з днём 8 сакавіка. Чаму такі адыход ад агульнай традыцыі?

Падстаў для гэтага мноства. Як ужо адзначалася, робіцца свята выключна жанчын універсітэта, свята хатняе, сямейнае, з нейкай асаблівай утульнасцю і цеплынёй. Дарэчы, чым больш такіх сямейных падзей, тым лепей працоўная і творчая атмасфера.

Потым, трэба шчыра сказаць, што святкаванне 8 сакавіка, дарэчы, якое мае месца толькі на абшарах былога Саюза, не набыло за гады свайго існавання цікавых і запамінальных традыцый. Звычайна ўсё адбываецца, кожны таму сведка, на ўзроўні ліхаманкава здабытай кветкі, казённых слоў, торта і пляшкі гарэлкі. Далей, давайце прыгадаем поўную назву, якую ў свой час далі святу нямецкія рэвалюцыянеркі: "Дзень салідарнасці працоўных жанчын усяго свету". Вось так: "працоўных жанчын"... Сорамна сказаць, але за мінулыя гады мы так прызвычаіліся да жанчыны ў ватніку і з кувалдай, да "жанчыны-трактара", "жанчыны-бульдозера", што, нават калі чуем бессмяротныя словы М.Багдановіча "Зорка Венера ўзышла над зямлёю...", не асэнсоўваем, што гэта пра жанчыну і для жанчыны. Тое, што кожная з іх сапраўды дзівосная і непаўторная зорка, нам ужо і няўцям. Аднак трэба ж пачынаць вяртаць грамадству існыя эстэтычныя каштоўнасці. Час рабіць хоць маленькія крокі ў гэтым напрамку. І яшчэ захацелася ствараць святочныя цуды для непаўторных жанчын універсітэта не ў дзень, калі Юдзіф адсекла галаву Алаферну. А зрабіла яна гэта, па паданні, якраз 8 сакавіка. Наогул, святкаванне бачылася ў сапраўдным веснавым росквіце прыроды. Пачаліся пошукі гістарычных аналагаў і высветлілася, што ў Старажытным Рыме святкаваліся не толькі "Вялікія Рымскія Сатурналіі", дзе ўдзельнікамі і героямі былі мужчыны, але і "Рымскія Матраналіі" — вялікія святочныя дзеі выключна для жанчын.

Патронкай свята была Юнона, багіня шлюбу, сям'і, сямейнага дабрабыту і жаночай вернасці. Таксама яна ахоўвала і каханне. Ладзілася свята ў апошнія тыдні красавіка і доўжылася некалькі дзён. У гонар жанчын складаліся оды, паэмы, праводзілася неверагодная колькасць спаборніцтваў з мэтай уславіць і ўсхваліць жанчыну, праспяваць гімн яе прыгажосці, непаўторнасці. Асабліва ўшаноўвалася жанчына-маці, жанчына зберагальніца хатняга ачага.

Вось і падумалася, а ў чым нашы жанчыны саступаюць рымскім матронам? Давай нашы, універсітэцкія Матраналіі! Зразумела, жарт, але што за студэнцкае жыццё без жартаў, без весялосці, без нечаканасцей? Тым больш у вялікай сям'і, якой, па сутнасці, з'яўляецца наш універсітэт. Чаго-чаго, а гумару, цудоўных здарэнняў і жартоўных сітуацый тут павінна быць шмат. Вось так і з'явіліся "Вялікія Букаўскія Матраналіі". Што яны будуць сабой уяўляць? Перш за ўсё, свята будзе напоўнена вялікай колькасцю сюрпрызаў. Зразумела, падчас падрыхтоўкі нельга поўнасцю прыадчыняць заслону таямніц, што закладваюцца ў сцэнарый святочнага дня.

Аднак з упэўненасцю можна сказаць, што ў гэты дзень нашы чараўніцы, і студэнткі, і выкладчыцы, на кожным кроку, пачынаючы за паўгадзіны да першага званка, потым на працягу дня і да вечара будуць мець магчымасць пераканацца ў тым, што яны сапраўдныя багіні, каралевы прыгажосці, спрытныя розумам, непаўторныя ў сваёй непрадказальнасці, таленавітыя ў прафесіі і ў мастацтве авалодвання мужчынскімі сэрцамі.

Яшчэ гэта будзе дзень бенефісаў, нечаканых, але вельмі прыемных сустрэч, дзень магчымасцей жанчын упэўніцца ў сваёй веліччы. З раніцы будуць працаваць "Майстэрні Купідона", "Школы Цыцэрона і Сенекі", "Курсы Грацый", "Кнігарня Тэрэнцыя", "Капіталійскія забавы", "Калізейскія спатканні" і шмат яшчэ чаго цікавага.

Будуць спектаклі, музычныя імпрэзы, выставы мастакоў, паэтычныя і песенныя конкурсы, феерверк студэнцкіх і выкладчыцкіх капуснікаў. Кожны факультэт, кожная кафедра і нават кожны курс будуць мець магчымасць раскрыць свае здольнасці ў незвычайным ракурсе.

Вось такая плануецца праграма. Пачнецца яна ў палове восьмага раніцы і завершыцца святочнай дыскатэкай. Будзем спадзявацца, што ўсё адбудзецца згодна з задумамі і нікога не пакіне абыякавым.

А 8 САКАВІКА? Ніхто не збіраецца ў гэтым дні нічога рушыць. Як усё адбывалася на працягу гадоў, так і адбудзецца ў гэты раз. І, карыстаючыся магчымасцю, мужчыны Беларускага універсітэта культуры вітаюць з надыходзячым святам усіх жанчын роднае Беларусі і жадаюць ім здароўя, шчасця, прыгажосці, шмат радасці і сонейка ў душы.

**Валерый МАРОЗ,**
**старшы выкладчык кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры.**

23.10 Асабліва важныя персоны.
23.25 Па вашых пісьмах.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.30 Парады садаводам.
13.45 "Памяць Марсава поля". Тэлефільм.
14.10 Праграма "Без назвы" прадстаўляе "Зорны розыгрыш".
14.35 Мультфільм.
14.45 "Кларыса". Міні-серыял (Вялікабрытанія). 3-я серыя.
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 "Мы, артысты..." Тэатральная праграма.
16.50 Дзіцячае ТБ. "Каша-малаша", "Тры колы, фаліянт і..."
17.30 "Чараўнік Ізумруднага горада". Тэлеспектакль для дзяцей. 2-я частка.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.15 Асабістая справа. Ю.А. Краўцоў — старшыня Заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга.
21.00 "Кларыса". 3-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Дом кіно.
23.15—23.54 Хакей. Чэмпіянат РХЛ.

**НТБ**

9.30 Жаночыя гісторыі. "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30, 17.30 Праграма для дзяцей. "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая "Часінка".
15.35 "Дыстанцыя 60" + "Шчаўчок".
16.35 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 Маст. фільм "Агент" (ЗША).
21.40 Часінка.
22.00 Гадзіна серыяла. "Хуткая дапамога" (ЗША).
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 Начная "Часінка".
24.00 Кіно не для ўсіх. Маст. фільм "Сем вар'ятаў" (Аргенціна).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 Шэсць навін.
8.25 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам!"
8.50 Дак. серыял "Па слядах Усёмагутных". "Піктаграмы і петрогліфы".
9.20 Фантастычны серыял. "Вавілон-5". 65-я серыя.
10.20 Праграма А. Палітkоўскага "Тамбоўскі воўк. Шукаю таварыша".
11.00 Джулія Робертс у фільме "Фантастычная піцца".
12.50, 0.20 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
13.20 Мультсерыял "Вяртанне Д'Артаньгава". 22-я серыя.
18.15 Серыял "Рабыня Ізаўра". 8-я серыя.
19.05 Ток-шоу "Зрабі крок".
20.15 Фантастычны серыял "Вавілон-5". 66-я серыя.
21.05 Тыя хто.
21.35 Серыял "Трымай злодзея!"
22.30 Шоу Бені Хіла.
23.10 Дыск-канал.
0.00 Знак якасці.

**8-ы канал**

18.00 У. Дысней. Мультфільм "Русалачка".
18.45 Кінакамедыя "Нястомныя шатландцы" (Англія).
19.45 Хрысціянская праграма.
20.15 Мульт-планета. "Прыгоды капітана Урунгеля."
20.30 Чэмпіянат свету па рукапашнаму бою.
21.45 Музычны канвеер.
22.15 "Зоркі" на экране. Брыжыт Бардо ў маст. фільме "Яе шлюбная ноч".

## Пятніца, 14 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні катэйль.
7.45 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 "Тэлебарометр". Прагноз надвор'я.
8.20 "Яшчэ не вечар". Госць праграмы — сям'я Н. Багуслаўскай і І. Капланава.
8.35 "Спадчына". Дак. фільм.
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Віталь Вольскі. "Несцерка".
9.35 "Уся справа ў капелюшы". Забаўляльна-пазнавальная гульня-віктарына.
10.05 "Зімоўе звяроў", "Пёс у ботах". Мультфільмы.
10.40 "Бархатны сезон". Музычна-забаўляльная праграма.
11.10 Люстэрка. Праграма для жанчын.
11.30 "Рабакоп". Тэлесерыял (ЗША).
12.20 Зорная ростань.
13.00 — 13.10 Навіны.
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 Відэакурс французскай мовы. Перадача 9-я.
15.40 "Вясёлы падманшчык", "Ах, прынцэса!" Мультфільмы.
16.00 Роднае слова. Пісьменнік Ядвігін Ш.
16.30 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". Правінцыя. Фермерская гаспадарка сям'і Бодакаў. Шклоўскі раён.
16.45 "Шанс". Пазнавальна-забаўляльная праграма.
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Ганна Ахматава. Рэквіем". Дак.фільм.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны.
18.20 "Рабакоп". Тэлесерыял (ЗША).
19.10 "Музычная абойма".
19.15 Тэма дня.
19.30 "Прафесіі заўтрашняга дня". Перспектывы беларускага эканамічнага універсітэта.
20.00 "У джазе толькі дзяўчаты". Забаўляльная праграма.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Маст. фільм "Небыліца".
23.15 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
23.45 Навіны.

**ГРТ**

11.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
11.15 "Смок і Малы". 3-я серыя.
12.40 Джэнтльмен-шоу.
13.10 Юрый Лотман. "Культура і інтэлігентнасць". Перадача 6-я.
14.20 "Тайны старога Лондана". Мультсерыял.
14.45 Фільм-казка. "Снягурачка".
16.20 Неяк раз.
16.30 Магія: свет звышнатуральнага.
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс". Серыял.
18.10 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Вялікія сышчыкі: Каломба ў дэтэктыве "Паспрабуй, злаві мяне!"
22.10 Погляд.
23.05 Начная кіназала. Аляксандр Панкратаў-Чорны і Дзмітрый Харацьян у камедыі "Новы Адэон".
0.25 Прэс-экспрэс.

**Расія**

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.30 L-клуб.
9.05–10.15 "Санта-Барбара". Маст. фільм.
13.25 "Дні Турбіных". Тэлевізійны маст. фільм. 3-я серыя.
14.30 "Каму на Русі жыць." Эканамічны агляд.
15.00 Залатая карта Расіі. "Уладзімірскія старажытнасці".
15.25 Экспавеснік.
15.30 Арэна для сенсацый.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
17.40 "Клубнічка". Тэлесерыял.
18.10 Двайны партрэт.
18.40 Расіяне.
19.35 L-клуб.
20.10 "Санта-Барбара". Маст. фільм.
21.05 Надвор'е на заўтра.
21.10 Добры вечар.
22.30 Начны экспрэс.
23.10 Асабліва важныя персоны.
23.25 Блак-нот.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.30 Парады садаводам.
13.45 "Каваль". Тэлефільм.
14.10 Ток-шоу "Наўздагад". Д. Пяўцоў.
14.35 Мультфільм.
14.45 "Кларыса". Міні-серыял (Вялікабрытанія). 4-я серыя.
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 У гонар музы.
16.50 Зебра.
17.30 "Вось ізноў акно". Маст. фільм па матывах апавяданняў Ю. Бондарава.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.15 "Чорны кот".
21.00 "Кларыса". 4-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.35 Як быць каханымі.
23.00 Прэм'ера. "Дэзідэрыя, асабістае жыццё". Маст. фільм (Італія).

**НТБ**

9.15 Ранічка.
9.30 Жаночыя гісторыі. "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30 Праграма для дзяцей. "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая "Часінка".
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 Кінатэатр юнага гледача. Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 Рускі дэтэктыў. Алег Фамін у фільме "Дрэнь".
20.40 "Алё, Фіма!"
21.40 Часінка.
22.00 Гадзіна серыяла. "Хуткая дапамога" (ЗША).
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 Начная "Часінка".
23.45 Свет кіно. П. Франко, Э. Фенек і Л. Банфі ў фільме "Багатыя, вельмі багатыя... на самай справе ў адных трусах" (Італія—Данія).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.30, 20.00, 22.10 Шэсць навін.
8.10 Прыватны выпадак.
8.30 Ток-шоу "Маё кіно" з Віктарам Мярэжкам.
9.20 Фантастычны серыял "Вавілон-5". 66-я серыя.
10.20, 12.55 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
11.00 Кінатэатр ТБ-6. "Пад чужым імем".
13.20 Мультсерыял "Вяртанне Д'Артаньгава". 23-я серыя.
18.00 Вы — відавочца.
18.40 Следства вядуць... "Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана. XX век наступае".
21.40 Клуб сусветнага гумару "12 капеек".
22.35 Дыск-канал.
23.25 Кінатэатр ТБ-6. "Дублёр. Начная змена II" (ЗША).
1.00 Знак якасці.

**8-ы канал**

18.00 У. Дысней. Мультфільм "Русалачка".
18.45 Свет прыгод. Маст. фільм "Воіны Атлантыды".
19.45 Хрысціянская праграма.
20.15 Мульт-планета. "Прыгоды капітана Урунгеля".
20.25 Даведачная служба-экспрэс.
20.30 Серыял "Тагерт", "Ціхія крокі смерці", 1-я серыя.
21.30 Рынг.
22.00 Грэгары Пек у містычным трылеры "Омэн", 1-я серыя.

## Субота, 15 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

***Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь***

8.00 Навіны.
8.10 "Музычная абойма".
8.15 "Рэгіён". Перадача з Магілёва.
8.45 Лёс мой і надзея. Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
9.15 Здароўе. Парады анколага.
9.40 "Віні-Пух", "Віні-Пух ідзе ў госці". Мультфільмы.
10.00 "Усё пра ўсё". Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
10.25 Лата "Лімпапо".
10.50 М. Ульянаў і Э. Быстрыцкая ў маст. фільм "Добраахвотнікі".
12.25 Алімп: ад падножжа да вяршыні.
12.45 Свет прыроды і захапленняў.
13.00 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, быт, культура.
13.30 "Крэда". Праграма для дзелавых людзей.
13.50 Тэлевізійны Дом кіно. Сустрэча з народным артыстам СССР Вячаславам Ціханавым.
14.25 Калаж. Праграма для дзелавых людзей.
14.55 Рэклама.
15.00 Навіны.
15.15 Дні Беларусі ў Мурманскай вобласці.
16.15 Творцы. Пісьменніца Вольга Іпатава.
16.50 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады. Брэсцка-Мінскі тур.
17.25 Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма.
17.55 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Рызыка-версія". Тэлегульня.
18.25 Галерэя. Дзіцячы кардыёхірург Валянцін Аўчарэнка.
18.55 "Музычная абойма". Вынікі тыдня.
19.15 Па вашых просьбах: "Як стаць "зоркай". Маст. фільм. 1-я серыя.
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.45 АрыстархЛіванаў у маст. фільме "Сад" ("Беларусьфільм").
23.15 Відзьма-нявідзьма.

**ГРТ**

9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.15 Слова пастыра.
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта.
10.35 Смак.
10.55 Джузепе Вердзі і Зураб Саткілава ў праграме "Запрашэнне да музыкі".
11.25 Таццяна Васільева ў фільме "Урокі французскай".
12.50 "Залаты кадр". Юрый Лявітанскі. Сустрэча ў Канцэртнай студыі Астанкіна (1994 г.).
13.25 Відавочнае — неверагоднае.
13.55 Праграма перадач.
14.20 "Саюзмультфільм" прадстаўляе: "Майдадыр", "Брыдкае качаня", "Муха-Цакатуха".
15.05 Амерыка з М. Таратутам.
15.35 У свеце жывёл.
16.15 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
17.20 Ірына Скобцава ў серыі "Жыццё выдатных людзей".
17.55 Надвор'е.
18.00 "Залатая серыя". Андрэй Міронаў у камедыі "Тры плюс два".
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 Серыял "Гордасць і прадузятасць". 1-я серыя. (1996 г.).
22.05 "Каламбур". Гумарыстычны часопіс.
22.40 "Калекцыя Першага канала". Кіну Рыўз у фільме "Мой асабісты штат Айдаха".

**Расія**

7.00 "Доктар Айбаліт". Зборнік мультфільмаў.
7.30 "Тайны цёмных джунгляў". Тэлесерыял (ЗША). 1-я серыя.
8.25 Ваш партнёр.
8.35 Мемарына.
9.00 Клуб "Адрэналін".
9.15 Добрай раніцы, краіна!
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.30 Парламенцкі тыдзень.
11.15 Наш сад.
11.30 Лепшыя гульні НБА.
12.25 Ананімныя субяседнікі.
13.00 Весткі пра...
13.20 "Процістаянне". Тэлесерыял (ЗША). 1-я серыя.
14.15 Рамансіяда-97.
14.30 У свеце жывёл.
15.00 Гідон Крамер у праграме "Танга ў Крамлі".
15.25 "Паэт у Расіі — больш чым паэт".
15.50 "Цёмная" для Э. Быстрыцкай.
16.10 Бясконцае падарожжа.
16.40 Суботні вечар Расійскага тэлебачання.
16.50 "Як многа дзяўчат цудоўных..."
17.40 РТР у гасцях у тэлегледачоў.
17.55 Суботні вечар з Валерыем Лявонцьевым.
19.00 Весткі.
19.35 Гарачая тэма.
19.50 "Сатурн-3". Маст. фільм (Вялікабрытанія).
21.30 Надвор'е на заўтра.
21.35 "Адзін супраць усіх". Тэлегульня.
21.50 Старая кватэра. Год 1951.
23.05 Подыум д'Арт.
23.50 Рэпарцёр.

**Санкт-Пецярбург**

9.10 "Гонар маю". Ваенны агляд.
9.40 "Вялікі паход за нявестай". Маст. фільм.
11.10 Ток-шоу "Наўздагад". Алёна Апіна.
11.40 Мультфільмы.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Да 60-годдзя Пецярбургскага ТБ. Залаты фонд. Тэлевізійны тэатр Розы Сіроты.
14.10 Яшчэ адна Расія. "Кругаварот".
14.45 Тэатральная правінцыя? Волагда. Драматычны тэатр. Перадача 1-я.
15.10 Гістарычныя дэтэктывы.
16.10 Спартыўны агляд.
16.30 Гульня "Лата-бінга".
17.30 Бенефіс Маргарыты Кулік.
18.40 Вялікі фестываль.
19.20 "Зіта і Гіта". Маст. фільм (Індыя). 1-я серыя.
20.30 Мультфільмы для дарослых.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 "Парад парадаў" прадстаўляе Наталлю Сенчукову.
22.30 Экспрэс-кіно.
22.45 "Зіта і Гіта". 2-я серыя.

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Мультсерыял. "Дыназаўрык па імені Дзінк" (ЗША).
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Тарзан" (ЗША).
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Хакей. Рэгулярныя матчы чэмпіяната НХЛ. "Пітсбург Пінгвінз" — "Каларада Эвеланш".
14.30 "Панарама" з Усеваладам Аўчыннікавым.
16.00 Рускі альбом.
16.30 Мультсерыял "Чалавек-павук" (ЗША).
17.00 Час "Ч" з Вольгай Кучкінай.
17.30 Дог-шоу. Я і мой сабака.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Камедыйны серыял "Справы смешныя, справы сямейныя".
19.00 Свет кіно. Жан Рэно і Крысціян Клаўе ў фільме "Прышэльцы" (Францыя).
20.45 Лялькі.
21.45 Надоечы-63.
22.30 Серыял па выхадных. "Байкі са склепа" (ЗША).
23.00 Суботнія шоу Мікалая Фаменкі "Імперыя страсці".
23.40 Трэцяе вока.
0.10 Начны канал. "Плейбой-шоу".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 18.10, 21.40 Шэсць навін.
6.10 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
7.10, 0.20 Дарожны патруль.
7.25 Дзіцячы сеанс. "Сярэбраная спражка Караліны".
8.40 Цэптэр-клуб.
9.00 "Том, Джэры і іх сябры". Мультфільмы.
9.55 Праграма для дзяцей. "Гэта мы не праходзілі!"
10.30 Серыял аб прыродзе. Дзікая прырода Аўстраліі.
11.25 Адкрыцці тыдня.
12.05 Кінаканал "Кінескоп".
13.05 Дыск-канал для дзяцей.
13.55 Ток-шоу "Я сама": "Я зберагла сябе для мужа".
14.55 Ток-шоу "Прафесія": "Музычны прадзюсер".
15.50 Клуб адзінокіх сэрцаў.
16.20 Прыгодніцкі серыял "Таямнічы востраў". 37-я і 38-я серыі.
17.15 Парыж, Парыж.
17.45 Кінападрабязна.
18.20 Скандалы тыдня.
18.50 Гумарыстычная праграма "ОСП-студыя".
19.35 Сатырычны кіначасопіс "Фіціль".
19.50 Кінатэатр ТБ-6. Парад чэмпіёнаў. А. Міхайлаў у фільме "Мужыкі."
21.50 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
22.40 Кінатэатр ТБ-6. Ларэнца Ламас у баевіку "Гадзюка".
0.35 Дыск-канал. Кай Метаў.

## Нядзеля, 16 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 "Ілюзіён", "Шэры конік", "Месяц". Мультфільмы ("Беларусьфільм").
8.45 "Ад прадзедаў спакон вякоў..." Прэм'ера дак. фільма.
9.05 "Свая дыстанцыя". Здаровы лад жыцця.
9.25 Тэлебом.
10.05 Востраў натхнення: "Я малюю".
10.20 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
10.50 Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адлачынак.
11.10 А. Камю. "Непаразуменне". Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Частка 1-я.
11.55 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
12.25 А. Камю. "Непаразуменне". Частка 2-я.
13.25 Вяскоўцы. Сацыяльна-эканамічнае развіццё гаспадарак Лагойскага раёна.
13.55 "Залатыя ключы". Тэлефестываль народнай творчасці.
14.30 "Вайна ў паветры". Дак. серыял (ЗША).
15.00 Навіны.
15.15 "Дзеўкі варожаць, дзеўкі чаруюць..." Відэафільм з удзелам дзіцячага фальклор-тэатра "Госціца".
15.20 Студыя "Акно". "Наконадні будучыні", "Тэлекшоу".
15.45 Госці ў дом. Мост.
16.15 "Залатыя арэлі сноў". Аўтарскі канцэрт кампазітара Алега Елісеенкава.
17.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Оскар". Тэлегульня.
17.50 "Як стаць "зоркай". Маст. фільм. 2-я серыя.
19.10 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Тэленавігатар.
21.30 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Юлія Кіма.
22.05 "Сінема". Маст. фільм Фрэнсіса Форда Копалы "Ізгоі" (ЗША).
23.40 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

7.00 Фільм "Асцярожна, бабуля!"
8.30 Мультфільмы.
9.00, 14.00, 23.15 Навіны.
9.15 "Непуцёвыя заметкі".
9.30 Пакул усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Служу Расіі!
11.30 Грай, гармонік, любы!
12.00 Русскій міръ.
12.30 Серыял "Падводная адысея каманды Кусто".
13.20 Смехапанарама.
13.55 Праграма перадач.
14.15 Вяртанне Траццякоўкі.
14.40 "Сімфанічныя тайны".
15.10 Клуб падарожнікаў.
15.55 Футбол. "Дынама" (Масква) — ЦСКА (Масква).
17.50 Камедыя "Рымскія канікулы".
20.00 Час.
20.35 Праграма перадач.
20.40 "Гордасць і прадузятасць". 2-я серыя.
21.45 "Надвор'е ў доме..." Юбілейны канцэрт Ларысы Долінай.
22.45 Футбольны агляд.
23.25 Меладрама "Дробязі жыцця".
0.55 Праграма перадач.

**Расія**

7.00 "Доктар Айбаліт". Зборнік мультфільмаў.
8.00 "Тайны цёмных джунгляў". Тэлесерыял (ЗША). 2-я серыя.
8.50 Латарэйныя навіны.
9.00 Добрай раніцы, краіна!
9.45 Прысяга.
10.15 Рускае лата.
10.55 Том Клайм.
11.00 "Чырвоная кніга".
11.10 Кніжная лаўка.
11.35 Песня Расіі.
12.30 Чалавек на Зямлі.
13.00 Весткі.
13.20 "Процістаянне". 2-я серыя.
14.10 Сад культуры.
14.40 Урача выклікалі?
15.15 Нічога, акрамя...
15.25 Нобелеўскія лаўрэаты. Іван Бунін.
16.10 Чароўны свет Дыснея. "Кранугы", "Аладзін".
17.05 Караоке па-руску.
17.35 Увесь свет.
18.15 Мужчына і жанчына.
19.00 Люстэрка.
20.00 Надвор'е на заўтра.
20.05 Рэпартаж ні аб чым.
20.20 Гісторыі кахання. "Сцерва". Маст. фільм.
21.45 "К-2" прадстаўляе: прызёры Берлінскага кінафестывалю ў праграме "Абзац".
22.40 "Ва ўсіх на вуснах". Праграма Наталлі Дар'ялавай.
22.55 У Ксюшы.
23.25 Рэк-тайм.
23.40—0.25 Зорны канцэрт. "Я кахаю Полі".

**Санкт-Пецярбург**

8.40 Гаючае слова.
9.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.40 Авертайм.
10.05 "Паляўнічыя". Дак. серыял.
10.55 Экспрэс-кіно.
11.10 Раман з героем.
11.40 Мультфільмы.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Зваротны адлік.
12.10 "Жаніцьба Бальзамінава". Фільм-балет.
13.15 Спявае Валерый Лявонцьеў.
14.10 Яшчэ адна Расія.
15.10 Марыінскі балет у Японіі. "Зоркі ў Краіне ўзыходзячага сонца".
16.10 Спартыўная праграма.
16.40 Дзіцячае ТБ. "Паласатая музыка", "Казка за казкай".
17.30 "Эдзіта П'еха: дзень нараджэння разам з вамі".
18.40 Рускі музей. "Персонных спраў майстар".
19.20 Прэм'ера. "Па 206-й". Маст. фільм.
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноу смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.25 "Каханне па заказу". Маст. фільм (Расія).

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Вуснамі немаўляці.
9.30 Тэлегульня "Разумей мяне".
10.00 Маст. фільм "Тарзан" (ЗША).
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Кніжны магазін.
12.30 Маст. фільм "Хроніка аднаго кахання" (Італія).
14.15 Рускі альбом.
14.30 Тэлегульня "Свая гульня".
16.00 "Кінафорум-97". В. Ільін, Г. Сукачоў і А. Смалянінава ў фільме В. Хаціненкі "Дарога" ("Прыбыццё поезда").
17.30 Нядзельная праграма Мікалая Фаменкі "Рускія цвікі".
18.00 Сёння ўвечары.
18.30 Серыял. "Справы смешныя, справы сямейныя". Заключная серыя.
19.00 Серыял "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя" (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.10 Кіно 80-х. А. Якаўлева і Т. Лаўсціола ў фільме П. Тадароўскага "Інтэрдзяўчынка".
23.50 Магазін на канапе.
0.20 Эратычныя шоу свету.

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 16.50 Шэсць навін.
8.15 Дзіцячы сеанс. "Тайна жалезнай дзверцы".
9.30 Мультфільмы "Дзяўчынка і зайцы", "Гісторыя аб дзяўчынцы, наступіўшай на хлеб".
9.55 Шоу ежы "Пальчыкі абліжаш".
10.30 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам!"
10.55 Серыял аб прыродзе. Дзікая прырода Аўстраліі.
11.55 Канон.
12.22 Музыка кіно. Валянціна Сярова.
12.35 Ток-шоу "Музыка і прэса". "Акулы пяра". Ірына Салтыкова.
13.30 Ток-шоу "Зрабі крок".
14.25 Спорт тыдня ў гасцях у Алега Блахіна.
14.55 "Том, Джэры і іх сябры". Мультфільмы.
15.55 Серыял па выхадных "Таямнічы востраў". 39-я і 40-я серыі.
17.00 Ток-шоу "Маё кіно" з А.Алейнікавым.
17.45 Тэлеканкрэтна.
18.20 Аналітычная праграма "Аглядальнік".
19.05 Сатырычны кіначасопіс "Фіціль".
19.20 Кінатэатр ТБ-6. Д. Вудс у баевіку "Паліцэйскі".
21.25 Шоу Бені Хіла.
22.00 Кінатэатр ТБ-6. А. Самохіна ў фільме "Ідэальная пара".
23.15 Тэледыскатэка "Партыйная зона".
0.40 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"

**8-ы канал**

15.00 Хрысціянская праграма.
15.30 Мультфільм "Русалачка" (Расія).
16.00 Калекцыя 8-га канала. Classic Queen.
17.15 Фантастычны серыял "Космас: далёкія куточкі".
18.45 Мульт-планета. "Астэрыкс і брытанцы".
20.00 Серыял "Тагерт", "Ціхія крокі смерці", 3-я с.
21.00 Экспертыза.
21.30 Навіны "К-відэа".
22.00 Маст. фільм "Омэн", 3-я серыя.







# У віхуры «Казюкоў»!

***Пяшчотна яго называюць "Казюкамі": ці то кірмаш, ці то агромністая выстава пад адкрытым небам, ці то народнае гулянне, дзе можна сябе паказаць ды і сябра, якога даўно не бачыў, сустрэць. Хутчэй за ўсё, "Казюкі" аб'ядноўваюць у сабе ўсе гэтыя рысы і магчымасці.***

Здавён у Вільню на пачатку вясны з'язджаліся жыхары Усходняй Літвы і Заходняй Беларусі — сяляне і рамеснікі — на вясновы распродаж керамікі, плеценых і драўляных вырабаў, рымарскага рыштунку, лекавых зёлкаў і велікоднай вярбы. У XIX стагоддзі кірмаш месціўся на Кафедральным пляцы, а ў пачатку XX стагоддзя перамясціўся на Лукішкі.

Дзе кірмаш — там і песні, і танцы, і весялосць. Здаецца, што ўся Вільня, ды й не толькі, — на вулачках Старога горада.

4 сакавіка па каталіцкім календары — дзень Святога Казіміра. У Вільні асабліва ўрачыста адзначаюць гэтае свята, што прысвечана святому Казіміру, сыну караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Казіміра. Малодшы Казімір быў чалавекам набожным, і пасля сваёй смерці ў 25-гадовым узросце стаў лічыцца цудатворцам. Памёр ён 4 сакавіка 1484 года ў Гародні. У 1602 годзе быў узведзены ў ранг святога. А ў 1636 годзе святы Казімір стаўся патронам Літвы. Менавіта таму ў гэтыя вясновыя дні віруе свята — "Казюкі".

**Віргіння ТАРНАЎСКАЙТЭ**
**Фотарэпартаж нашага спецыяльнага карэспандэнта Генадзя ЖЫНКОВА**
*Мінск — Вільнюс — Мінск*



















ЗГАДАЕМ...

# "ТУТ ЗАКАПАНА ЯГОНАЯ ПУПАВІНА..."

***. Годна! Так, менавіта словам "годна" можна азначыць усё тое, што напрыканцы мінулага месяца адбылося на Бялыніцкай зямлі. І ніякім чынам гэта не падпадае проста пад сухую класіфікацыю: "мерапрыемства дзяржаўнага маштабу". Урэшце, без сумнення — "дзяржаўнага", але, дакладна — не "мерапрыемства"...***

***"У ПРЫРОДЗЕ, У НАРОДЗЕ..."***

Наш "Ікарус", які суправаджала міліцэйская "мільгалка", да палудня 26 лютага падкаціў да Бялыніцкага мастацкага музея імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Мы — гэта дзеячы культуры і журналісты. Дэлегацыю ўзначаліў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі.

На плошчы нас сустрэлі сотні святочна апранутых людзей. Здавалася, на ўрачыстае адкрыццё новага музея з нагоды 125-х угодкаў з дня нараджэння свайго вялікага земляка Вітольда Каятанавіча сабраўся ўвесь раён, не лічачы гасцей з Магілёва. Сустракаюць вядомых мастакоў Беларусі Уладзіміра Стальмашонка, Георгія Паплаўскага, Антона Бархаткова, Леаніда Дударэнку, Івана Міско, Уладзіміра Летуна, Генадзя Буралкіна, Уладзіміра Васюка, Юрыя Карачуна, пісьменніка Віктара Карамазава, гасцей з Масквы і Кіева — жывапісцаў Валянціна Сідарава і Георгія Васецкага. Сустракаюць журналістаў, супрацоўнікаў Міністэрства культуры, музейных супрацоўнікаў. Усім дораць гваздзікі...

Мы, у сваю чаргу, ускладаем кветкі да помніка вялікаму Вітольду і ўваходзім у музей. Гэта ўжо не той, былы, сціплы, старэнькі музей, які быў адкрыты 27 гадоў таму. Гэта — сучасны, добра рэканструяваны, прыгожы, светлы, на еўрапейскім узроўні будынак, які складаецца з пяці выставачных залаў, дзе можна наладжваць невялікія выставы любога ўзроўню.

У музеі нас чакаюць адразу пяць экспазіцый і, перадусім, галоўная, — пастаянная экспазіцыя арыгінальных палотнаў Бялыніцкага-Бірулі, у асноўным, з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея. Пейзажы, карціны, эцюды, створаныя мастаком у розныя гады жыцця. Светлыя, чыстыя, як крыніца, адухоўленыя. А вось і цудоўны "зімовы" партрэт самога Вітольда Каятанавіча, напісаны з натуры ягоным блізкім сябрам акадэмікам жывапісу Ігарам Грабарам. Некалі партрэт быў набыты ў легендарнай спявачкі Лідзіі Русланавай колішнім дырэктарам Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Аленай Аладавай. А цяпер вось ён тут, у пастаяннай экспазіцыі. Як і скульптурны партрэт мастака, створаны Заірам Азгурам, таксама сябрам пейзажыста.

Побач — выстава жывапісных палотнаў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Антона Бархаткова, вучня Вітольда Каятанавіча. Гэта — падарунак Антона Стафанавіча музею.

У наступнай зале — выстава графікі мясцовай мастачкі Ларысы Журавовіч і юных выхаванцаў Бялыніцкай дзіцячай школы мастацтваў, а далей — экспазіцыя, складзеная з твораў удзельнікаў Першага міжнароднага пленэру жывапісу імя В.Бялыніцкага-Бірулі, які адбыўся летась на Магілёўшчыне.



Проста вочы разбягаюцца...

Шмат было сказана цёплых словаў пра юбіляра, шмат было музыкі і танцаў. Запомніўся кіраўнік народнага тэатра юнага гледача, бліскучы Валянцін Ермаловіч "у ролі Бялыніцкага-Бірулі", запомніліся таленавітыя дзеткі — спевакі і танцоры... Шум, гоман, усмешкі...

А затым свята размясцілася ў кінатэатры "Зорка". Урачыстая вечарына прадстаўнікоў грамадскасці Бялыніцкага раёна і горада Магілёва, гасцей з Мінска і пасланцоў Расіі і Украіны пачаўся незвычайна — з выканання Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Бадай, мы ўпершыню адчулі дзяржаўную значнасць свята, звязанага з імем МАСТАКА.



Было сказана шмат добрых, прыгожых і прачулых словаў. Пра тое, што азначаў для Беларусі і Расіі гэты чароўны жывапісец, чалавек, які "вырас у вёсцы, у прыродзе, у народзе" і палотны якога "былі поўныя музыкі, а музыка мела колер".

У выступленнях старшыні Бялыніцкага райвыканкама Аляксандра Агеева, міністра культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандра Сасноўскага, пісьменніка, аўтара кнігі пра мастака "Крыж на зямлі і поўня ў небе" Віктара Карамазава, народнага мастака Расіі, старшыні праўлення Саюза мастакоў Расіі Валянціна Сідарава, народнага мастака Украіны Георгія Васецкага, народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка, старшыні Беларускага Саюза мастакоў Генадзя Буралкіна гучала асноўная думка: творчасць В.К.Бялыніцкага-Бірулі — гэта вялікая духоўная спадчына беларусаў і расейцаў, жывое звяно паміж мінулым і будучыняй у культурным кантэксце гэтых народаў. І гэтую спадчыну трэба берагчы, прапагандаваць і паказваць не толькі там, дзе жыў і ствараў жывапісец, але і ў еўрапейскіх краінах. Бо мастацтва не мае дзяржаўных межаў.

Было адзначана, што, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці нашага часу, культура жыве і развіваецца і на радзіме В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Уявіце сабе: ніводная з 72 устаноў культуры ў раёне не была зачыненая з прычыны "фінансавых цяжкасцей". А мясцовая дзіцячая школа мастацтваў, дзе сёння навучаюцца 410 дзяцей, з іх 100 — на аддзяленні выяўленчага мастацтва, —з'яўляецца асаблівым гонарам раёна. Хто ведае, магчыма, і сярод гэтых дзяцей вырастуць новыя Бірулі!

***З НЕДЗЯЖУРНЫХ ДУМАК ВЫСТУПОЎЦАЎ***

***Аляксандр САСНОЎСКІ, міністр культуры Рэспублікі Беларусь:***

"Такія адносіны да сваёй нацыянальнай культуры — гэта ўзор ва ўсёй нашай дзяржаве. І кожны жыхар гэтага горада, раёна, кожны госць, які прыехаў сюды, нясе ў душы пачуццё сапраўднага гонару за нашага вялікага земляка — В.К.Бялыніцкага-Бірулю, і пачуццё гонару за ўсіх нас, якія не забываюцца на сваіх знакамітых людзей.

Вы бачыце, якія сюды прыехалі госці — мастакі з Расіі, з Украіны, з Мінска. Гэта вельмі прыемна таму, што мы на самой справе адчуваем тую еднасць, якая існуе паміж намі. Творчасць Вітольда Каятанавіча — еўрапейскага ўзроўню. Гэта вельмі вытанчаныя, прачулыя творы, якія могуць упрыгожыць музеі ў кожным кутку свету. Я мяркую, што наспеў той час, калі мы павінны паказаць творы нашага майстра не толькі на Беларусі, не толькі ў Расіі, але і па ўсім свеце. Я думаю, што гэта стане адным з накірункаў дзейнасці нашага Міністэрства культуры.

... Я хацеў бы ад імя ўрада краіны, Міністэрства культуры, ад усіх дзеячаў культуры выказаць самую шчырую падзяку кіраўнікам вобласці і раёна. Гэта дзякуючы іхнім намаганням мы ўзнялі на такі высокі ўзровень памяць аб сусветна вядомым мастаку — Бялыніцкім-Бірулі!"

***Пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар КАРАМАЗАЎ:***

"Бялыніцкі-Біруля сабраў нас на гэты свой юбілей на сваёй радзіме. Упершыню юбілей мастака святкуецца на гасціннай Бялыніцкай зямлі, дзе, як сказалі б у народзе, закапаная ягоная пупавіна. Мы сабраліся тут не толькі для таго, каб свядома і ўсенародна, усёю грамадой адчуць і сказаць, што мы яго любім, што мы ягоныя законныя духоўныя дзеці і ўнукі. А што знаходзімся з ім у адной духоўнай плыні, для нас сёння не толькі свята, але і паратунак."

***Валянцін СІДАРАЎ, народны мастак Расіі, старшыня праўлення Саюза мастакоў Расіі, акадэмік жывапісу:***

"У наш найцяжэйшы час на Беларусі так бліскуча і душэўна, так, я б сказаў, манументальна, адзначаецца юбілей найцішэйшага мастака! Бялыніцкі-Біруля нёс людзям любоў да прыроды, нёс цішыню. Менавіта за гэты талент "слухаць прыроду", "слухаць цішыню" яго любілі і Левітан, і Рэпін, і Жукоўскі. За гэта і мы, ягоныя нашчадкі, любім гэтага майстра, які з'яўляецца найяскравейшым мастаком не толькі на Беларусі і ў Расіі, але і ва ўсёй Еўропе" .

***Старшыня Бялыніцкага райвыканкама Аляксандр АГЕЕЎ:***

" Калі я ўглядаюся ў пейзажныя палотны нашага земляка, дык нібыта чую гучанне музыкі, іншы раз лірычна-душэўнай, іншы раз пяшчотна-ласкавай, але заўсёды шчырай і хвалюючай. Толькі тут, на цудоўнай беларускай зямлі, мог нарадзіцца такі геніяльны мастак! І сённяшнія ўрачыстасці з нагоды ягонага юбілею, адкрыццё музея, усталяванне помніка-бюста і мемарыяльнай дошкі на радзіме Бялыніцкага-Бірулі ў вёсцы Крынкі, правядзенне міжнародных пленэраў жывапісу, што прысвечаны мастаку, — усё гэта не фармальныя "моманты", а даніна новаму, духоўнаму адраджэнню нашага раёна, нашай вобласці".

*... Не спяшаліся госці ў "Ікарус", які выпраўляўся назад у Мінск. Штосьці ўтрымлівала іх тут, у Бялынічах... Можа, тая самая, нябачная пупавіна, з якой увайшоў у свет Вялікі Вітольд і якая закапана тут, на зямлі Бялыніцкай?*

**Радзіму вялікага мастака наведаў Барыс КРЭПАК**

*На здымках: Ігар Грабар. "Партрэт В.К.Бялыніцкага-Бірулі". Палатно, алей. На адкрыцці Бялыніцкага мастацкага музея імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "МАСТАЦТВА І РЭЛІГІЯ"



Так называецца выстава, што адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі з удзелам Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі больш за сто твораў, якія раней не экспанаваліся, а многія з іх перад тым, як трапіць на выставу, прайшлі сур'ёзную рэстаўрацыю. Экспанаты даюць поўнае ўяўленне пра асаблівасці мастацтва і рэлігійныя веравызнанні на тэрыторыі Беларусі, пачынаючы з III тысячагоддзя да новай эры і да пачатку XX стагоддзя.

На выставе можна ўбачыць прадметы паганскіх абрадаў, старадрукі, абразы, складні, падсвечнікі, нацельныя і алтарныя крыжы, харугвы... І ўсё гэта выканана з найвышэйшым майстэрствам і мастацкім густам. Тое, што стваралі майстры ўсіх часоў у імя Веры — гэта ўзоры сапраўднага народнага мастацтва, дакрануцца да якога і дазваляе гэтая выстава.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**

*На здымках: фрагмент іканастаса з Віцебскай вобласці канца XIX — пачатку XX стагоддзя; алтарны уніяцкі крыж.*

**Фота аўтара**



# ВА ЎДЗЯЧНАЙ ПАМЯЦІ

Мінула сорак дзён, як заўчасна пайшоў з жыцця шчыры сябра газеты "Культура", вядомы вучоны-фальклярыст Уладзімір Сысоў.

Імя гэтага чалавека добра знаёма не толькі ў навуковых колах краіны, але і жыхарам шматлікіх куточкаў Беларусі, праз якія пралягалі вандроўныя шляхі збіральніка народных скарбаў. Ці не ўсёй краіне быў ён вядомы і як адзін з аўтараў і вядучых тэлеперадачы "Запрашаем на вячоркі", якая, можна сказаць, атрымала другое дыханне менавіта дзякуючы яго няўрымслівасці, здольнасцям і майстэрству.

Працаваў Уладзімір Мінавіч у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы АН Беларусі, дзе прайшоў шлях ад лабаранта да старшага навуковага супрацоўніка, абараніў дысертацыю на годнасць кандыдата філалагічных навук. Высокую адзнаку атрымала напісаная ім манаграфія "Беларуская пахавальная абраднасць" (Мінск, 1995 г.), рэцэнзіі на якую змяшчаліся ў айчынным і замежным друку. Выдавецтвы краіны рыхтуюць да выпуску ў свет яшчэ дзве яго кнігі, прысвечаныя традыцыйнай беларускай народнай спадчыне. У творчым актыве У.М.Сысова шматлікія публікацыі ў навуковых зборніках, на старонках "Культуры", "Звязды", "Чырвонай змены", іншых айчынных і замежных выданняў.



Шмат сіл і намаганняў аддаў навукоўца збіральніцкай працы. Толькі невялікую колькасць сабранага фальклорнага матэрыялу паспеў ён увесці ў навуковы ўжытак, значная ж частка яго асабістага архіва яшчэ пабачыць свет з дапамогай родных і калег.

Цяжка ў невялікім памятным слове з нагоды саракавін падрабязна ахарактарызаваць унёсак У.М.Сысова ў навуковае і культурнае жыццё краіны, але ўжо сёння можна адназначна сказаць, што зробленае ім прынесла вялікую карысць Бацькаўшчыне.

Чалавечыя ж якасці Уладзіміра ў поўнай меры праявіліся ў стасунках з роднымі і, блізкімі, сябрамі і калегамі, знаёмымі і незнаёмымі. Ён быў клапатлівым бацькам, чулым мужам, удзячным сынам, надзейным сябрам. Любіў і ўмеў пажартаваць. Аптымізмам сваім, весялосцю і жыццярадаснасцю натхняў усіх акружаючых. У цяжкія ж моманты жыцця імкнуўся кожнаму працягнуць руку таварыскай дапамогі.

Уладзімір Сысоў шчыра любіў Беларусь, і ў яе роднай зямельцы знайшоў свой апошні спачын. Светлыя ўспаміны аб ім захаваюць усе, каму пашчасціла пазнаёміцца з гэтым цудоўным чалавекам, хто хоць аднойчы бачыў яго добразычлівую ўсмешку. Нарадзіўшыся на яблычны Спас (19 жніўня 1951 года), Валодзя атрымаў свой прытулак у Вечнасці, а яго імя — ва ўдзячнай памяці суайчыннікаў.

# АЛЕНА ГЛІНСКАЯ

ЯНА нарадзілася, па некаторых звестках, якраз у тым 1505 годзе, калі маскоўскі князь Іван III ажаніў свайго дваццаціпяцігадовага сына Васіля з Саламоніяй (Саламанідай) Сабуравай. А праз тры гады бацька Алены Васіль Глінскі з сям'ёй і двума братамі (пасля вядомага мяцяжу Глінскіх) з'ехаў у Маскву, ратуючыся ад няміласці вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта.

Род Глінскіх спачатку быў аблашчаны ў Маскве: надта славутыя людзі былі сярод гэтых, гаворачы сучаснаю моваю, палітычных эмігрантаў. Дзядзька Алены, Міхал, па мянушцы Мажны, быў адметнай постаццю: вучыўся ў Еўропе, служыў у войску імператара Свяшчэннай рымскай імперыі Максіміліяна, дзе вызначаўся сваім вайсковым талентам. У Вялікім княстве Літоўскім славу заваяваў у бітве пад Клецкам, дзе ў 1506 г. дашчэнту разграміў татар. Яе бацька, Васіль Львовіч, да ўцёкаў у Маскву быў старостам берасцейскім і падстоліем літоўскім, меў, апроч Алены, трох сыноў: Юрыя, Івана і Міхала.

ЖЫВУЧЫ блізка ля княжацкага двара, Глінскія, безумоўна, ведалі, што шлюб вялікага князя Васіля з Саламоніяй быў няўдалым: па-першае, нявесту сыну выбраў бацька, князь Іван III. Напалоханы перспектывай мець нявестку-каталічку (баяры моцна не любілі ягоную ўласную жонку, Соф'ю Палеалог, выхаваную пры двары рымскага папы), уладар Масковіі сярод паўтары тысячы прэтэндэнтак выбраў ціхмяную Саламонію, адмовіўшыся прыняць заморскую каралеўну. Па-другое, гэты шлюб, які працягваўся дваццаць адзін год, заставаўся бяздзетным, і летапісцы апісваюць, як, убачыўшы птушынае гняздо, вялікі князь Васіль плакаў, гаворачы, што нават у птушак ёсць птушаняты, а вось яму Бог не дае патомства. Прывыкшы да таго, што маці яго, грэчаская царэўна, магла самастойна прымаць паслоў, быць дарадчыцай у многіх палітычных пытаннях, ён, мабыць, цягнуўся душой да такой жанчыны, але Саламонія, якую па звычаях таго часу выхоўвалі мамкі, амаль не выпускаючы з церама, не асмельвалася ні штосьці радзіць мужу, ні настойваць на сваім.

Мабыць, Алена Глінская, якая, хаця і жыла ў Маскве, атрымала іншае, больш адкрытае, можна сказаць, еўрапейскае выхаванне, уразіла вялікага князя не толькі сваёй прыгажосцю. І ён пацягнуўся да яе, нягледзячы на супраціўленне баяр і царквы. Асабліва ўразіла баяр тое, што абхаджваючы дзяўчыну, ён нават пагаліў бараду, што выглядала ў вачах тагачаснай грамадскасці сапраўдным блудам. Намер яго пастрыгчы Саламонію ў манашкі таксама выклікаў вялікую незадаволенасць, аднак жа частка баяр падтрымала яго: княства павінна было захоўваць цвёрдую пераемнасць улады, бяздзетны шлюб мог мець цяжкія наступствы пасля смерці ўладара — абвастрылася б барацьба за ўладу. Але нават падтрымліваючы дынастычныя памкненні вялікага князя, яны выступалі супраць узвышэння сямейства Глінскіх.



Дзядзька Алены Міхал выклікаў страх у знаці Вялікага княства Літоўскага — баяліся яго ўплыву. Тое ж, праз нейкі час, стала адбывацца ў Маскве, толькі тут жорсткі абсалютызм улады быў больш нясцерпны. Пры двары Аляксандра, караля польскага, ён быў сябрам і дарадчыкам. Пры двары Жыгімонта — спачатку таксама, але нават прыніжаны, ён быў усё ж роўным сярод роўных — іншая справа, што самую гэтую роўнасць ён успрымаў як прыніжэнне, бо нясцерпна хацелася быць сярод першых, можа, самым першым... На Маскве ж яму даводзілася быць хаця і высокапастаўленым, але адным з "халопаў гасударавых". Нездарма ж у час руска-літоўскай вайны 1512—1522 гадоў ён паспрабаваў вярнуцца да Жыгімонта, але быў схоплены і пасаджаны ў турму.

Заступніцтва прыгажуні-пляменніцы Алены вызваліла яго. Але ці думаў ён тады, што пазней, у 1534 годзе, зноў вернецца ў турму, толькі цяпер па ейным загадзе?!

Тым часам вялікі князь паслаў, як і належала, ганцоў да трох самых уплывовых у колішнім хрысціянскім свеце патрыярхаў — Канстанцінопальскага, Александрыйскага і Іерусалімскага, каб папрасіць дазволу і благаславення на новы шлюб. І хаця юрыдычна просьба ягоная была абгрунтаваная — Саламонія не нарадзіла дзяцей, значыць, шлюб быў не благаславёны нябеснымі сіламі, аднак жа ўсе тры патрыярхі адмовілі яму.

Сучаснікі сцвярджалі, што айцы царквы, валодаючы дарам прароцтва, праракалі, што новы шлюб, калі ён адбудзецца, прынясе жахлівы плод. Іерусалімскі патрыярх Марк выказаў гэта ў такіх словах: "Калі дзёрзка ўступіш у шлюб злачынны, то будзеш мець сына, які здзівіць свет сваёй лютасцю".

Аднак ці магло такое прароцтва спыніць Васіля Іванавіча, які кахаў маладую прыгажуню і хацеў сыноў? Што да лютасці, дык яшчэ бацька ягоны, Іван III, шмат вучыў яго жорсткасці ў дзяржаўных справах, няўступлівасці баярам, якія не хацелі прымірыцца з тым, што князь, якога раней яны лічылі толькі першым з роўных, робіцца недасяжным манархам, які вольны над іхнімі жыццямі? А менавіта такія парадкі прынесла на Маскву Соф'я Палеалог, бо басілеўсы, цары Візантыйскія, валодалі неабмежаванай уладай. Нездарма ж адшліфаваныя стагоддзямі візантыйскія цырыманіялы сталі ўзорам для многіх іншых дзяржаў, найперш жа — Маскоўскай. Дарэчы, менавіта з грэчаскай царэўнай прыйшоў на Масковію і герб Палеалогаў — двухгаловы арол, які стаў сімвалам Расійскай імперыі.

Так што, саслаўшы жонку спачатку ў Раждзесцвенскі дзявочы, а пасля ў Суздальскі Пакроўскі манастыр, дзе яна пастрыглася пад імем Соф'і, Васіль Іванавіч ажаніўся з Аленай, і праз тры гады, 25 жніўня 1530 года, у іх нарадзіўся сын, які пасля стаў вядомы як Іван Жахлівы.

Было шмат радасці і спадзяванняў, асабліва калі нарадзіўся і другі сын — Юрый (Георгій).

Але толькі першынцу споўнілася тры гады, як бацька яго смяротна захварэў — у верасні 1533 г. паехаў у Траецкі манастыр на свята цудатворца Сергія і па дарозе адтуль прыхапіў хваробу: на левым сцягне ўскочыла барвовая балячка. Яна павялічвалася, стала выходзіць шмат гною. Адчуўшы смерць, вялікі князь прычасціўся і паспеў развітацца з жонкай. Ён, па звычаі многіх уладароў, пастрыгся ў манахі пад імем Варлаама. Баярын Шыгона, які прысутнічаў пры смерці вялікага князя, расказваў, што дух выйшаў з Васіля ў выглядзе тонкага воблака.

АЛЕНА, даведаўшыся аб смерці мужа, нездарма ўпала і дзве гадзіны ляжала як мёртвая: крамола пры двары пачалася амаль адразу ж пасля таго, як яна, паводле звычаю, стала правіцельніцаю пры сваім малалетнім сыне. Але, калі б яна, даверыўшыся завяшчанню мужа, паспадзявалася на свайго дзядзьку, Міхала Глінскага, то, мабыць, магла б пазбегнуць многіх непрыемнасцей. Правіцельніца ж, наадварот, зблізілася з братам мамкі свайго сына, князем Іванам Аўчына-Целяпнёвым-Абаленскім. Малады дужы князь зацьміў Міхала Глінскага, такія дзве магутныя асобы не маглі ўжыцца побач, Алена павінна была выбіраць. Яна выбрала Аўчыну-Целяпнёва. Глінскі быў абвінавачаны ў тым, што ён захацеў уладарыць разам з сябрам сваім Міхалам Варанцовым. А натоўп абвінаваціў яго яшчэ і ў тым, што ён атруціў вялікага князя Васіля — гэтак жа некалі абвінавачвалі яго ў Вялікім княстве Літоўскім, што ён атруціў вялікага князя Аляксандра. Мабыць, ён горка смяяўся з іроніі лёсу — абедзве смерці неслі яму бяду і апалы. У жніўні 1534 г. Глінскі быў схоплены і пасаджаны ў тую ж цэлю, дзе сядзеў пры Васілю. Зноў зняволенне — на гэты раз самае горкае! Ён неўзабаве памёр — цяжка, мабыць, аднаму чалавеку бясконца пераносіць гэткія ўзлёты і падзенні!

Але і фаварыт Алены, Абаленскі, выклікаў моцнае незадавальненне баяр, асабліва Шуйскіх. Гэта была сапраўдная вайна — за ўплыў пры двары, за пасады і ўзнагароды. Ды пакуль Алена была жывою, нельга было перамяніць становішча, пры якім зорка фаварыта ззяла ярка і непераможна. Але 4 красавіка 1538 г. памерла Алена. Герберштэйн піша, што яе атруцілі. Нездарма такое падазрэнне! І Целяпнёў-Абаленскі пражыў нядоўга: ён неўзабаве назаўсёды знік у страшнай цямніцы, дзе раней памёр другі родзіч нябожчыка Васіля — Андрэй, якога Алена таксама кінула ў турму. Жорсткая барацьба набыла новых дзеючых асоб.

Івану было тады 8 гадоў. Пазней у лісце да Курбскага ў адказ на папрокі ў звярыным нораве ён піша: "Пасля смерці маці нашай, Алены, засталіся мы з братам Георгіем круглымі сіротамі; падданыя нашы... знайшлі царства без уладара; пра нас, гасудараў сваіх, клапаціцца не сталі, пачалі толькі квапіць на багацце і славу, варагаваць адны з другімі. І колькі зла нарабілі!.. Казну маці нашай перанеслі ў вялікую казну, прычым шалёна нагамі піхалі яе рэчы і пруткамі калолі, частку і сабе забралі, а зрабіў гэта дзед твой — Міхайла Тучкоў".

ВАРОЖАСЦЬ да Глінскіх, да іх магутнасці і ўплыву захоўвалася. І калі ў чэрвені 1547 года, неўзабаве пасля вяселля Івана, стаўся пажар на Маскве, то ў натоўпе, які сабраўся перад Крамлём, закрычалі, што пажар здарыўся таму, што "княгіня Глінская са сваімі дзецьмі валхавала, вымала чалавечыя сэрцы, ды клала ў ваду, ды тою вадою, па Маскве раз'язджаючы, пырскала". Тут жа ў натоўпе стаяў Юрый Глінскі, ён хацеў непрыкмента схавацца, але баяры напусцілі на яго натоўп, які забіў яго — ва Успенскім саборы, пасля вывалаклі труп яго з Крамля. Разрабавалі двор Глінскіх, і на трэці дзень натоўп з'явіўся перад царскім палацам і патрабаваў, каб Іван выдаў сваю бабку і дзядзьку, князя Міхала, — ды Іван загадаў пакараць смерцю зачыншчыкаў.

Але страх, які ён адчуў тады, калі раз'ятраны натоўп патрабаваў крыві блізкіх яму людзей, ужо ніколі не забываўся Іванам... Ён не раз успамінаў тыя дні ў перапісцы з Курбскім, падрабязна апісваў крыўды, якія памятаў з дзяцінства і якія не ўмеў забываць, нават калі хацеў выказаць сябе літасцівым і, кажучы сучаснай мовай, дэмакратычным. Нагадаем, што ўдзельнікаў славутага Сабора 1566 года, якія аднадушна падтрымалі цара ў яго рашэнні сабраць сродкі для вайны, але папрасілі адмяніць апрычніну, усіх пакаралі смерцю... Але гэта было пасля. А пакуль...

Магутны род Глінскіх заняпаў. Чужымі прыйшлі яны на гэтую зямлю і не змаглі знайсці тут сваё шчасце.

А цар Іван Жахлівы прыходзіў пасля на зямлю сваёй маці і дзеда, каб паліць агнём яе храмы і бібліятэкі, таптаць яе палеткі і лугі, гнаць у палон дзяцей і жанок.

НІ Ў МАСКОВІІ, ні на Белай Русі не засталося пра гэты род добрай памяці, і самі перамогі Міхала Глінскага нібы перакрэсленыя яго ўцёкамі. Трагічны гэты род, нібыта некалі за нешта выкляты. І не надта выразным сілуэтам у шэрай паўцемры даўніны праходзіць прыгажуня Алена Глінская — пляменніца вялікага воя, які пакінуў свой народ, і маці вялікага цара, які пакінуў след у гісторыі не дабрынёй ці асветніцтвам, а лютасцю і крывёй...

*На рэпрадукцыі: С.Іваноў. "Земскі сабор".*

# СЛЯДЫ ЗГУБІЛІСЯ Ў ВЯКАХ...

У ЧАСОПІСЕ "Наука и жизнь" за 1979 год быў надрукаваны артыкул з прадмовай А.Арловай і А.Мядзвецкага пад назвай "Меншыкава вежа, што на Чыстых сажалках". Апроч цікавага аповеда аб тым, як будавалася на сродкі Аляксандра Меншыкава царква Архангела Гаўрыіла і як Паганыя сажалкі, куды сцякаліся памыі і кроў з бойняў "Гасударава боева двара", былі вычышчаныя па загадзе Меншыкава і сталі называцца ад таго часу "Чыстымі", ёсць там радкі, датычныя да нашай гісторыі. Вось яны: "Пакуль ішло будаўніцтва (царквы. — **В.І.**), Меншыкаў знаходзіўся ў дзеючай арміі. У 1706 годзе войскі пад яго камандаваннем атрымалі перамогу над шведамі пад Калішам. З гэтага паходу ён прывёз у Маскву абраз Полацкай Божай Маці, які стаў упрыгожаннем іканастаса царквы Архангела Гаўрыіла.

Тыя, хто ўмее чытаць між радкоў, адразу задумаюцца над тым, чаму і як трапіла да Меншыкава старажытная полацкая святыня. Як вядома, Полацк быў разрабаваны войскамі Пятра Першага, і, такім чынам, гэта быў свайго кшталту ваенны трафей. Святлейшы князь, "дзіця сэрца майго", як называў Меншыкава рускі цар, мог, вядома, браць сабе самае лепшае. І ён узяў, сярод многага іншага, тое, што сапраўды ўпрыгожыла яго новую царкву.



А тым часам адбудоўвалася новая руская сталіца, Аляксандр Данілавіч быў прызначаны губернатарам Санкт-Пецярбурга, і, пераехаўшы туды, ён занядбаў свае маскоўскія ўладанні, у тым ліку і ўсё яшчэ недабудаваную царкву. Архітэктар І.Зарудны ў 1721 годзе пісаў князю, што дах працякае, іканастас недароблены, усюды вільгаць з'ядае драўляныя часткі і "народ наракае, што царква стаіць у запушчанасці". Але Меншыкаў быў заняты іншымі справамі, і занядбанасць давяршыў пажар. Ён узнік ад таго, што маланка ўдарыла ў крыж будынка. Пажар тушылі салдаты Сямёнаўскага і Праабражэнскага палкоў, і нямала іх загінула, калі пачалі абрывацца званы, якіх было амаль 50.

Адзін толькі цудоўны абраз не то што не быў пашкоджаны, але і нібыта не даваў пажару наблізіцца да месца, дзе ён знаходзіўся. Меншыкаў загадаў, каб яго прывезлі да яго ў Пецярбург, што і было неўзабаве выканана.

Мабыць, не раз маліліся перад цудадзейнай іконай Полацкай Божай Маці, якая вісела ў хатняй царкве Меншыкавых на Васільеўскім востраве, яе новыя гаспадары. Меншыкаву было чаго баяцца: хаця, пасля смерці Пятра, ён стаў паўнапраўным уладаром Расіі, атрымаўшы дазвол Кацярыны Першай на шлюб сваёй дачкі Марыі з наследнікам Пятром Аляксеевічам (сынам Аляксея Пятровіча), аднак ён ведаў, што супернікі яго таксама не дрэмлюць. І сапраўды — Даўгарукія, якіх ён наблізіў да Пятра Другога, каб праз іх памірыцца з высакароднымі баярамі, выкарысталі гэта, каб скінуць самога Меншыкава: 8 верасня 1727 года ён быў арыштаваны, уся ягоная маёмасць канфіскаваная, і, высланы разам з жонкай, сынам і дочкамі ў Бярозаў, памёр там 12 лістапада 1729 года.

А куды ж падзелася полацкая святыня? Хто здымаў цудадзейную ікону і куды вынеслі яе з дамовай царквы? Ці захавалася яна, ці была знішчаная ўжо ў савецкія часы, калі абразамі палілі печкі? Мы гэтага не ведаем.

А ЦАРКВА Архангела Гаўрыіла была дабудаваная амаль праз 60 гадоў масонам Гаўрыілам Ізмайлавым, вежу яе ўжо звыкла называлі Меншыкавай, і вежу гэтую ўпрыгожыла ляпніна з таямнічымі знакамі, сімваламі і афарызмамі, якія разумелі толькі дасведчаныя. Збітыя і зафарбаваныя ў 1863 годзе паводле загаду маскоўскага мітрапаліта Філарэта, яны, у ясны сонечны дзень, бываюць ледзь бачныя на сценах гэтай царквы, якая звязаная з імем чалавека, узнесенага на неверагодную вышыню зямнога жыцця і імкліва абрынутага ўніз — можа, для таго, каб людзі яшчэ і яшчэ раз пераконваліся ў марнасці свайго шалёнага жадання ўзбірацца на гэтыя вяршыні...

*На здымку: Меншыкава вежа — царква Архангела Гаўрыіла ў Маскве.*

**Старонку падрыхтавала Вольга ІПАТАВА**

АКСЕСУАРЧЫКІ



# ПАД КАТОЎСКАГА, ПАД САБАЧНІКА, ПАД ЭЙФЕЛЕВУ ВЕЖУ

Толькі ў адным Мінску сотні цырульняў. І ў кожнай з іх нараджаецца дзіва — няхай і не заўсёды ўдалае. Тут шмат чаго залежыць не толькі ад майстэрства цырульніка, але і ад таўшчыні нашага кашалька. Розныя стрыжкі і цырульні маюць розны кошт — featuring розная абслугоўванне.

**— Страхуецеся?**

— Можа і так.

**— Я гляджу, у вас чыста жаночы калектыў. Нейкі матрыярхат.**

— У жаночым і мужчынскім залах у нас працуюць па шэсць мастакоў, з іх двое мужчыны. Яны ў нашым салоне нібы экзатычныя кветкі. Ахоўваем.

**— А пастаянныя кліенты ў вас ёсць?**

— Усе такія. Выпадковыя, як кажуць — аднаразовыя наведнікі ў нас рэдкасць.

**— Мабыць, і настаўнікі беларускай мовы, і бізнесмены? Ці людзі багатыя выклікаюць цырульніка дахаты?**

— Сёння было два настаўнікі. І бізнесмены прыходзяць. Апошнія цешаць нас чаявымі. А дахаты... У нас гэта не прадугледжана. Толькі калі да знаёмых.

**— Кажуць, што мужчыны стрыгуць лепш.**

— Напрыклад, мужчынскае карэ ў нашых мужчын атрымліваецца сярэдняга ўзроўню. А я раней была ў жаночай зале, таму і мужчынскае карэ я раблю выдатна. Большасць наведнікаў-мужчын, у тым ліку і нашы майстрымужчыны, лічаць, што доўгія валасы — прывілея жанчын.

**— Я так не лічу.**

— І тым не менш.

**— А ствараць мадэльную стрыжку цяжка?**

— Канечне, калі наведнік п'яны і буяніць. Але ў нас гэтага няма. Такое звычайна адбываецца на перыферыі. Яшчэ, валасы бываюць розныя — мяккія, жорсткія...

**— Ці здараліся ў вас нейкія прыемныя недарэчнасці?**

— Аднойчы да нас прыйшоў хлопец з доўгімі валасамі і папрасіў зрабіць стрыжку. Мы зрабілі яму нешта вельмі экстравагантнае. Але потым высветлілася, што ён хацеў зусім іншае, але стрыжка атрымалася стыльная. Ды вельмі яго ўпрыгожыла, так што ён... цяпер наш пастаянны наведнік.

Наогул было б цудоўна, каб фантазія цырульнікаў не падводзілася пад ужо распрацаваныя класічныя стрыжкі. Не пашкодзіць новая хваля фантазіі на нашых галовах (не кустарная — паэтычная). І падстрыжаныя валасы не абавязкова знішчаць ці пускаць толькі на выраблене парыкоў. Варта шчупальцы вынаходніцтва падоўжыць. Напрыклад, выкарыстоўваючы ўсялякія дадатковыя матэрыялы: плеўку, клей, вяроўкі, дрот і г.д., можна ствараць нейкія цікавыя рэчы — статуі, палотны, кубы, вопратку, кнігі...

**Стрыгся Зміцер ВОЛКАЎ**

# Слава ЗАЙЦАЎ: "АДЧУЙЦЕ, ЯКАЯ ВЫ СПАКУСЛІВАЯ!"

"Чырвоны Дзіёр" Зайцаў у традыцыях куцюр'е да вясны прыгатаваўся загадзя. Паказ калекцыі адзення "Вясна — лета-97-люкс" у праграме "Спакуса" на працягу некалькіх месяцаў прайшоў у шэрагу гарадоў, у тым ліку і ў нас у Мінску.

Гэтую праграму не назавеш інакш, як спектаклем. Тут усё падпарадкавана галоўнай тэме. Музыка — джазавыя і кабарэтныя шлягеры 20 — 40-х гадоў. Дэкарацыі — белыя кветкі на падстаўках, гнутыя крэслы. Грым — макіяж і фрызуры Д.Вінакурава. Акцёрская ігра — хаця яна магла б быць і больш далікатнай, і больш шчодрай. І, безумоўна, раскоша ўвасобленых фантазій куцюр'е. Падмануліся тыя, хто чакаў пабачыць паўтарэнне надакучыўшых псеўда-фальклорных канструкцый, што прынеслі ў свой час Зайцаву шумны поспех за мяжой. Майстар не паўтараецца і не стаіць на месцы. Таму больш за 30 гадоў і застаецца — адзін з нешматлікіх — у шэрагу лепшых мастакоў-мадэльераў свету.

"Я карыстаюся народнымі матывамі не літаральна. Мы можам пафанатазіраваць на гэтую тэму — творча. Але фальклор — гэта ўвесь час адыход назад. А цікавасцю прыцягнення наступных пакаленняў будуць усё ж такі ўзоры нашага часу". У праграме "Спакуса" гэтыя ўзоры народжаны "ўспамінамі пра маму". Адштурхнуўшыся ад адзення канца 20-х гадоў, Зайцаў "нафантазіраваў" зусім свежыя, арыгінальныя мадэлі. Ён нагадаў пра гады незапатрабаванага кахання — ваенныя і пасляваенныя, з пэўнай смеласцю дадаўшы ў праграму сапфічныя матывы. "У гэтым няма нічога ненатуральнага. Чалавеку дадзены патэнцыял пяшчоты, які трэба аддаваць". І разам з тым ён даў урок той навукі, якую кожная жанчына ніколі не стамляецца спасцігаць. "Здавацца даступнай, але быць недаступнай — вось вяршыня мастацтва спакушэння". Такім задуманы і такім стаўся гэты "пяшчотна-павольны спектакль, што закранае інтымныя струны кожнага". Як гэта выказвалася праз вопратку? Шмат белага і прыглушана-белага колеру. Альбо колер чорны, цёмна-шэры. Альбо "абрыкос". Кароткія паліто, сукні з далікатнай воўны з няроўным краем —парадзе адкрываюць ногі ледзь не цалкам, а ззаду хаваюць іх амаль да каленяў, з вузкай таліяй і мноствам складак, фальбонаў, кліноў ад таліі. Кароткія вузкія, у абліпку, вязаныя сукенкі — белыя, бэжавыя, жоўтыя, меланж у спалучэнні з маленькімі шапачкамі. Капялюшыкі — авальныя, аб'ёмныя, што нагадваюць павязаную хустку, ці маленькія, цвёрдыя "тамбурыны". Вялікія кантрастныя дэкаратыўныя гузікі, шырокія альбо вельмі вузкія рамяні. Панчохі — каляровыя ці бэжавыя, альбо чорныя карункавыя. Чорныя лакіраваныя "шпількі" з тоненькім раменьчыкам па шчыкалатцы.



Мужчынскія гарнітуры — значна больш сціплыя, як заўсёды. Шырокія доўгія пінжакі, таксама шырокія штаны, далікатная воўна альбо шоўк з люрэксам. Ці наадварот, кароткія, у абліпку "кельнерскія", з цёмнай парчы. У другім аддзяленні мужчынам-дэманстратарам і зусім дасталася ў асноўным роля гледачоў. "Жаналюб" Зайцаў прадставіў прастору "спакушальніцам", апрануўшы іх у шоўк. Ад бякла-зялёнага са смарагдавым — як ракавіна сярод багавіння — да імператарскіх жоўтага і пурпуровага, і камбінацыі ультрамарыну з шафранам. Шоўк сцякаў з плеч манекеншчыц накідкамі, кісеямі і шлейфамі, іншы раз дадавалася цвёрдая залатая парча. І ўсё гэта не ў форме штучнай мудрагелістасці, але цалкам дапасавана да рэальнага жыцця, хаця б і ў элітарным асяроддзі.

Аўтарскія каментарыі і разважанні заўсёды не менш цікавыя, чым відовішча на подыуме.

"Чалавек — гэта сапраўды гучыць горда. Чалавек, вянец стварэння, павінен быць узорам прыгожага. Той, хто знаёмы з азбукай касцюма, здольны дасягнуць разняволення асобы, здольны ўзвысіцца над звыклым. Касцюм — гэта візітоўка. Першае, што я пашыў для сябе, калі ў 1952 годзе прыехаў у Іванава, былі аранжавыя вельветавыя штаны і чырвоная кашуля. З тае пары я зразумеў: калі мяне лаюць, значыць, усё ў парадку, я — не як усе. І сам імкнуся не адказваць на зласлівыя выпады — жыццё такое хуткаплыннае, трэба паспець зрабіць дабро. Сапраўды, мода элітарная, яна належыць вузкаму колу — як кожнае мастацтва. У мяне пытаюцца: "Якой вам бачыцца жанчына, у якой няшмат сродкаў, але якая хоча цікава выглядаць?" Перадусім — белая мужчынская блузка. Белы колер павінен быць абавязкова, гэта асаблівасць славянскага твару — злёгку зямлісты тон. Белы колер яго гасіць. Потым элегантная кароткая спадніца, чорная ці цёмна-шэрая. Шэры колер дае надзвычайнае адчуванне спакою. Мужчынскі пінжак. Да ўсяго гэтага дадайце аксамітку на шыі, кветачку, хусцінку. Мяняйце фрызуры! Валасы не зубы — адрастуць! Важна знайсці дакладны колер валасоў — цалкам мяняецца вобраз жанчыны, яна становіцца іншай. Нават пры мінімуме сродкаў можна знайсці магчымасць самавыказвання. Чаго толькі не апранала жанчына — і ШТО яна апранала! У мастацтве пошуку гармоніі ўся гісторыя сведчыць пра дзіўную шчырасць, што прыходзіць да чалавека, калі ён судакранаецца з жаночым вобразам. Прыйдзіце сёння дахаты, прыміце ванну, папрацуйце з сабой і адчуйце, якая вы спакушальная! Няма жанчын непрыгожых — ёсць толькі лянівыя!"

**На подыум заварожана глядзеў Ігар КЛОКАЎ**

# ТЭНДЭНЦЫІ МУЖЧЫНСКАЙ МОДЫ КАНЦА XX СТАГОДДЗЯ

Мода — гэта цудоўная магчымасць перажыць эпоху нанова. Няхай нават ілюзорна. Мода 90-х гадоў стала адлюстраваннем настрояў канца стагоддзя: з аднаго боку, гэта нейкі заняпад, дэкаданс, з другога — імкненне да традыцыйнасці і дабрадзейнасці.

Мужчынская мода гэтага сезона вызначаецца распаўсюджваннем белага колеру і спалучэннямі з ім. Салоны мод на "Вясну — лета-97" прапанавалі наступную гаму колераў: бледна-саламяны, карычневыя адценні кавы і тытуню, камбінацыі яскравых і светлых таноў спектра. Колер, як і раней, з'яўляецца лідэрам у вызначэнні стылю.

Надышла неабмежаваная свабода ў выбары мужчынскай вопраткі. Класічны строй (касцюм), застаючыся сімвалам рэспектабельнасці, адышоў на другое месца, саступіўшы новым, часам непрадказальным, прыёмам злучэння частак вопраткі ў ансамблі. Камізэлькі — адзін з улюбёных зараз частак мужчынскага гардэроба. Яны вызначаюцца незвычайнай разнастайнасцю: ядвабныя з эфектам жакардавага малюнка ў стылі старых габеленаў; ваўняныя — традыцыйныя і вольныя, якія нагадваюць жакет ці куртку; у стылі "рэпарцёрскай" курткі са шматлікімі кішэнямі: скураныя, паляўнічыя і г.д. Навінкой сезона сталі пінжакі з высокай зашпількай. Элементы новага дызайну — павялічаны каўнер і асіметрычны малюнак на гальштуку. Найбольш папулярнай тканінай для кашуль зараз з'яўляецца ламэ (святочная тканіна з выкарыстоўваннем металёвых нітачак), глянцавы атлас і нават цэлафан.

Прамы сілуэт лідзіруе ў мадэлях куртак і паліто. Шырокія плечы выйшлі з моды, саступіўшы месца натуральнай лініі пляча. Дакладней — у мадэлях класічнага стылю ці мяккай, ніспадаючай — у вопратцы дзелавога характару.

У вопратцы для працы пераважае напрамак яскравай каляровай гамы. Па-ранейшаму ў модзе джынсы і джынсавыя камплекты, на гэтую частку вопраткі вельмі вялікі ўплыў маюць густы 70-х гадоў.

**Падрыхтавала Наталля ЛОЙКА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 6.03.97. у 14.00.

Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3514
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**